№ 2 (935) 13 студзеня 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Як выкладчык навуковага камунізму стаў пасняховым капіталістам

Гісторыя поспеху гаспадара фабрыкі «Марка». **Старонка 6.**



## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**

# Прыгожа падае…

## Курс даляра пераваліў за 19 000

Афіцыйны курс даляра дасягнуў 19 234 рублёў. Чарговую псіхалагічную мяжу амерыканская валюта пераскочыла нават не спатыкнуўшыся.

Краіны Еўразійскага саюза застаюцца закладнікамі расійскай нафтавай залежнасці. Ад пачатку года барэль маркі «Брэнт» патаннеў з $37 да $31. Расійскі рубль за гэты час абясцэніўся на 5%, казахстанскі тэнге — на 8%. Следам за імі пачыкільгаў і беларускі рубель.

Сумнеўна, што нафта будзе таннець няспынна. Які-ніякі непрацяглы рост цаны — а значыцца, і ўмацаванне расійскага рубля, — можа быць, але ў цэлым эксперты раяць рыхтавацца да далейшага падзення. Сбербанк Расіі пралічвае стрэсавы сцэнар з разлікам нафты па $25.

Тым часам стала вядома пра чарговы абвал золатавалютных рэзерваў Беларусі. За месяц яны паменшалі на $408 млн, да мінімуму з 2011 года. На 1 студзеня яны склалі 4,176 млрд даляраў.

Зніжэнне аб'ёму золатавалютных рэзерваў «было абумоўлена пагашэннем Беларуссю замежных і ўнутраных абавязацельстваў у замежнай валюце ў поўным аб'ёме», гаворыцца ў паведамленні Нацбанка.

У цэлым па выніках 2015 года золатавалютныя рэзервы Беларусі скараціліся на 883,3 млн даляраў ЗША

У 2016 годзе для падтрымання золатавалютных рэзерваў урад і Нацбанк абяцаюць праводзіць збалансаваную макраэканамічную палітыку.

Першы намеснік прэм'ер-міністра Васіль Мацюшэўскі падчас справаздачы Аляксандру Лукашэнку 11 студзеня заявіў, што Беларусь разлічвае пачаць новую праграму з МВФ у студзені — пачатку лютага. Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, Лукашэнка быў праінфармаваны аб тым, што «прынцыповыя пытанні па гэтым кірунку практычна знятыя».

Разам з тым у прадстаўніцтве Міжнароднага валютнага фонду ў Мінску ў той жа дзень паведамілі, што некаторыя пытанні пры абмеркаванні новай праграмы мер эканамічнай палітыкі для Беларусі пакуль застаюцца адкрытымі.

**Ягор Марціновіч**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Да 30 см снегу прынёс у Беларусь за суткі цыклон «Даніэла».**

**У выступе на Раство Лукашэнка заклікаў Беларускую праваслаўную царкву дабіцца большай самастойнасці**

## Беларускія епіскапы: хто яны?

Усё менш людзей ходзяць у царквы штотыдзень. Пры гэтым архірэяў робіцца ўсё больш. На сёння ў Беларускім экзархаце Рускай праваслаўнай царквы іх налічваецца 17. Гэта кіраўнік БПЦ, мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел, мітрапаліт на пакоі Філарэт і 15 епіскапаў.

Толькі за апошнія два гады Беларускі экзархат павялічыўся на трох епархаў.

**Працяг на старонцы 3.**

## У Мінску затрымалі баевіка «ДНР»

Непрацуючы 35-гадовы жыхар Пружанскага раёна, акрамя таго, знаходзіўся ў вышуку за нявыплату аліментаў.

Жыхар Пружанскага раёна затрыманы па падазрэнні ва ўдзеле ў баявых дзеяннях на тэрыторыі Украіны. Пра гэта паведаміў 12 студзеня журналістам начальнік УУС Брэсцкага аблвыканкама Фёдар Балейка.

Начальнік Пружанскага РУУС Аляксандр Гук пацвердзіў «Нашай Ніве», што затрыманы ваяваў на баку так званай «Данецкай народнай рэспублікі».

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку Пружанскага РАУС затрымалі мужчыну 11 студзеня ў Мінску. Цікава, што непрацуючы 35-гадовы жыхар Пружанскага раёна знаходзіўся ў вышуку за нявыплату аліментаў.

«Калі яго прывезлі ў Пружаны, пачалі працаваць, высветлілася, што ён браў удзел у баявых дзеяннях на тэрыторыі Данецкай і Луганскай абласцей у складзе баявых атрадаў. Мае ўзнагароды, пацвердзіў гэта падчас допыту. Дзеянні яго будуць кваліфікавацца ў адпаведнасці з Крымінальным кодэксам», — паведаміў начальнік УУС.

**Зміцер Панкавец**

## Камерсанты вераць Лукашэнку і не збіраюцца выходзіць на вуліцы

Яны просяць, каб прэзідэнт адмяніў сертыфікаты. **Старонка 10.**

## Надзел у «Драздах-2» далі Герою Расіі

Касманаўт Алег Навіцкі аформіў дакументы да заканчэння грамадскага абмеркавання праекта. **Старонка 5.**

## Чатыры эпізоды гэтага Новага года, якія разарвалі мае шаблоны пра Беларусь

Піша Стась Карпаў. **Старонка 14.**

## Зыгмунт і Апалонія

Гісторыя кахання і вернасці. Піша Васіль Герасімчык. **Старонка 12.**

# Псіхалогія літаратурнай творчасці: з БДУ адлічылі ўдзельніка «Маршу студэнтаў»

Хлопец сцвярджае, што яго «заваліла» выкладчыца Тацццяна Шамякіна. У сваю чаргу Шамякіна расказвае, што навучэнец меў сур'ёзныя праблемы з ведамі.


Глеб Вайкуль сцвярджае, што яго адмыслова «завалілі» на заліку

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Марш студэнтаў» адбыўся 2 снежня. Яго арганізавалі актывісты руху «Студэнты супраць», нязгодныя з увядзеннем у БДУ платы за ліквідацыю акадэмічнай запазычанасці. Некалькі дзясяткаў чалавек прыйшлі да галоўнага корпуса ўніверсітэта, патрабуючы, каб рэктар ВНУ Абламейка выйшаў на перамовы. Студэнты скандавалі «Рэктар, выходзь!», трымалі плакаты аб тым, што ў БДУ няма рэальнага самакіравання, «Рэктара — на дыван!». Праўда, ніхто да іх не выйшаў.

Як мінімум на трох чалавек міліцыя склала пратаколы за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. Яшчэ як мінімум у пяці праваахоўнікі перапісалі пашпартныя звесткі.

Адным з тых, на каго склалі пратакол, быў Глеб Вайкуль, студэнт 2-га курса філфака. Літаральна на наступны дзень хлопца выклікалі на камісію ў дэканат, дзе яму зрабілі вусную заўвагу за пропуск заняткаў.

30 снежня суддзя Маскоўскага раёна Мінска Максім Сушко аштрафаваў Глеба на 18 базавых велічынь (3,24 млн рублёў) за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. А ў пачатку студзеня ў хлопца пачаліся праблемы з заліковай сесіяй. Па словах самога хлопца, залік па псіхалогіі літаратурнай творчасці, які ставіўся ўсім студэнтам «аўтаматам», для яго стаў невыканальнай задачай.

Глеб Вайкуль два разы здаваў гэты залік, і кожны раз выкладчык Тацццяна Шамякіна — дарэчы, дачка беларускага пісьменніка Івана Шамякіна — яго не ставіла, спасылаючыся на недакладнасці і няправільныя фармулёўкі. На трэці раз Глеб здаваў прадмет ужо камісіі.

«5 студзеня я здаваў залік камісіі з трох чалавек, у тым ліку там прысутнічала і Тацццяна Шамякіна. Я адказаў на ўсе пытанні па білеце, і два сябры камісіі былі згодныя з тым, што я валодаю інфармацыяй па прадмеце і мне можна паставіць залік. Але Тацццяна Іванаўна даводзіла, што я адказваў няправільна, задавала дадатковыя пытанні. У выніку выкладчыца сказала, што хоча сустрэцца яшчэ раз на пераздачы», — расказаў студэнт тэлеканалу «Белсат».

Інфармацыя пра пераздачу заліку камісіі не спраўдзілася, і Глеб Вайкуль пабачыў сваё прозвішча ў спісе студэнтаў на адлічэнне.


Выкладчыца Тацццяна Шамякіна лічыць, што ўсе праблемы адлічанага студэнта крыюцца ў адсутнасці ведаў і дысцыпліны.

«Хлопец проста абсалютна нічога не адказаў, — сказала «Нашай Ніве» Тацццяна Шамякіна. — Ані на асноўныя пытанні, ані на дадатковыя. Калі ён кажа, што ўсё ён ведаў, а я яго «зрэзала», то гэта проста хлусня, а ён непрыстойны чалавек», — кажа Шамякіна.

«Я пастаянна ішла насустрач Глебу, парушаючы ўсе нормы і правілы, хаця сама толькі адзін раз бачыла яго на сваіх занятках. Але ж ну нічога ён не ведаў, ён жа сам прызнаўся, што не адкрываў канспект, бо не змог яго знайсці. І як бы я выглядала ў вачах сваіх калег, калі б паставіла яму залік, як і іншым студэнтам? — пытаецца Шамякіна. — Наконт той магчымай сустрэчы пасля камісіі — я думала, што, можа быць, атрымаецца яшчэ раз прыняць у Вайкуля залік, нават нягледзячы на тое, што звычайна экзамен з камісіяй апошні», — кажа яна.

Шамякіна сцвярджае, што да адлічэння яна не мае ніякага дачынення: «За 40 гадоў маёй працы з-за мяне менавіта не адлічылі ніводнага студэнта! А ў Вайкуля былі праблемы і з іншымі дысцыплінамі, яго не дапусцілі яшчэ да аднаго экзамена. Аніякіх рэкамендацый па ціску на Вайкуля ніхто ў БДУ не атрымліваў», — кажа Шамякіна.

«Гэты студэнт проста стаў пагалоскай. Ён увогуле не вучыўся. Прычым яго ж ужо выключалі, і ён паступаў па новай. Першы раз ён не здаў фальклорную практыку, і зноў яму ішлі насустрач, паўгода гэта цягнулася, але ён так і не здаў. Выключылі. Пасля, калі ён другі раз паступіў, былі пастаянныя хвасты і пропускі», — кажа Шамякіна.

«Я ўвогуле супраць камерцыялізацыі адукацыі, пішу і кажу пра гэта адкрыта, і нашае начальства гэта ведае. Але ж калі мы ўжо ўступаем у Балонскі працэс, то куды ж нам падзецца? Няма куды. Бо Балонскі працэс прадугледжвае камерцыялізацыю адукацыі. Я маю сваю пазіцыю, але калі сістэма такая, а я чалавек сістэмы, то павінна выконваць яе патрабаванні. Ды і самі студэнты кажуць: трэба сумленна хадзіць на заняткі, трэба сумленна вучыцца, тады і не трэба будзе плаціць», — кажа Шамякіна.

Сам Вайкуль настойвае, што менавіта залік Шамякінай стаў прычынай яго адлічэння.

«Бо ў мяне «вісела» як акадэмічная запазычанасць фізкультура, але гэта не было праблемай для допуску да сесіі. Аднак мяне завалілі на заліку, у выніку не дапусцілі да сесіі і я не змог 5 студзеня здаць першы іспыт, рускую мову. Яго адразу паставілі як няздачу. Плюс фізкультура, плюс Шамякіна — і вось я не здаў тры прадметы, мяне адлічваюць», — кажа Глеб.

Глеб мяркуе, што гэта звязана з асабістым стаўленнем Шамякінай да студэнта. «У нас шмат было разыходжанняў у поглядах на Балонскі працэс», — кажа Вайкуль.

«Раней мяне не адлічвалі, — пярэчыць словам Шамякінай Вайкуль. — Я сыходзіў у акадэмічны адпачынак па сямейных справах. Я скончыў першы курс на платным, затым узяў «акадэмку», пасля чаго перапаступіў на бюджэт. Мяне павінны былі перавесці на другі курс, але з 5-гадовай сістэмы нас пераводзілі на 4-гадовую, і з'явілася акадэмічная запазычанасць, якую мне не далі здаць экстэрнам. І я зноў пайшоў тады на першы курс», — тлумачыць свой заблытаны студэнцкі шлях Вайкуль.

**Улад Швядовіч**

## Сцісла

**Нафта прабіла антырэкорд 2004 года — $31**

Цэны зніжаюцца на фоне занепакоенасці інвестараў адносна эканамічнай сітуацыі ў Кітаі і празмернасці сыравіны на рынку.

**Інфляцыя за год склала 12%**

Па падліках Белстата, найбольш падаражала садавіна — на 49%. А мяса і бульба патаннелі на 2%.

**9-гадовая дзяўчынка забіла бабулю**

Трагедыя ў Кобрыне адбылася ўвечары 7 студзеня, калі сям'я святкавала Раство. Дарослыя пілі. На кухню забегла дзяўчынка, бабуля ўдарыла яе. У адказ дзяўчынка схапіла нож і пырнула ім 58-гадовую жанчыну ў жывот. Параненую перавязалі, але да медыкаў звяртацца не сталі. Праз тры дні бабуля памерла.

**У забітым камандзіру ДНР апазналі чалавека з Магілёва**

«Падпалкоўнікам ДНР» быў Яўген К. Ён быў намеснікам камбрыга нейкай «100-й мотастралковай брыгады». Адслужыўшы ў войску ў Мар'інай Горцы, ён вярнуўся дадому. Як пішуць у інтэрнэце, ён быў судзімы за разбой. Пасля яго пасадзілі ў Расіі, але нейкім дзіўным чынам К. апынуўся ў Данецку.

ЯМ

## Апытанне на nn.by

**У выніку рэвалюцыі 1917—1920 удалося стварыць БНР і БССР. Развал СССР даў магчымасць абвяшчэння незалежнасці. Як Вы думаеце, ці ў выніку цяперашняга крызісу Беларусь выйдзе з васальнай залежнасці ад Расіі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так, выйдзе | 497 | 27% |
| Не, застанецца васалам | 389 | 21% |
| Хутчэй, ізноў страціць суверэнітэт | 293 | 16% |
| Пакуль няясна | 464 | 25% |
| Залежыць ад ступені падзення цэн на нафту | 201 | 11% |

Прагаласавала 1844 карыстальнікі

## Самае чытанае на nn.by за 6—12 студзеня

1 У сецява трапіла відэа выканання «Москва, по ком звонят» «Ленінграда» ў прысутнасці Пугачовай і Газманава

2 Стась Карпаў: Чатыры эпізоды гэтага Новага года, якія разарвалі мае шаблоны пра Беларусь

3 У расійскай бальніцы доктар адным ударам забіў пацыента

4 У жодзінскім СІЗА павесіўся 20-гадовы хлопец

5 «Беларусь-1» паказаў гнеўны сюжэт пра журналіста Tut.by, які засумняваўся ў дасягненнях Лукашэнкі ў хакеі

6 З філфака БДУ адлічваюць удзельніка «Маршу студэнтаў»

7 Казцы канец. Якой цаной Беларусь выйграла Калядны турнір

8 Швейцарская мастачка раздзелася ў цэнтры Кёльна супраць гвалту з боку мігрантаў

9 Як правільна вітацца на Каляды

10 Цыклон «Даніэла» ўскладніў рух на вуліцах і дарогах

# У выступе на Раство Лукашэнка заклікаў Беларускую праваслаўную царкву дабіцца большай самастойнасці

Выступ Аляксандра Лукашэнкі на Раство Хрыстова меў частку, прысвечаную царкве, святарам і дзяржаве. У ёй кіраўнік дзяржавы ў мяккай форме заклікаў Праваслаўную царкву дабіцца больш самастойнага статуса, застаючыся, аднак, у рамках Маскоўскага патрыярхата.

Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, ён не разумее тэзіса «царква па-за дзяржавай і аддзеленая ад дзяржавы». «Сёння царква ў Беларусі ператварылася ў адно з апірышчаў нашай дзяржавы, якое забяспечвае разам з іншымі зацікаўленымі органамі ўлады і арганізацыямі баланс нашага грамадства»

«Вы мне адкажыце на адно пытанне: у нас царква дзейнічае ў адпаведнасці з законам, Канстытуцыяй? Вядома. А хто стварае закон і Канстытуцыю? Дзяржава, яе прадстаўнікі. Вось і адказ на пытанне аб рэальным становішчы спраў».

«Дый царква ў апошні час, пасля распаду Савецкага Саюза, — з тых часоў я не чуў, каб яна педаліравала тэму — мы па-за дзяржавай. Я не чуў, каб наша Руская праваслаўная царква пра гэта заяўляла».

«Царква як была, так і застанецца адным з слупоў, асноўных апірышчаў нашай дзяржавы». «І ўсе ў царкве, прабачце мяне за гэтую заўвагу, як прэзідэнт і кіраўнік дзяржавы я магу гэта сказаць, павінны разумець: царква дзейнічае і функцыянуе ва ўмовах суверэннай і незалежнай дзяржавы».

«Так, мы частка гэтага праваслаўнага свету, які называецца Руская праваслаўная царква. Мы не імкнёмся там да нейкай незразумелай аўтаноміі і самастойнасці, хоць, шчыра скажу, мы гэта абмяркуем яшчэ на сустрэчы са святарамі — царква павінна развівацца».

«Царква не павінна спыняцца на адным і тым жа. Я ўжо не аднойчы звяртаў на гэта ўвагу — нашай царкве трэба ўдасканальвацца. І я, як кіраўнік дзяржавы, наколькі гэта магчыма, буду гэтаму спрыяць, не нагнятаючы абстаноўкі».

«Мы не былі суверэннай незалежнай дзяржавай у такой ступені, у якой з'яўляемся цяпер. Натуральна, усе інстытуты ўлады і арганізацыі, у тым ліку царква, павінны прыстасоўвацца да гэтага, таксама ўдасканальвацца ў гэтым кірунку. Але яшчэ раз падкрэсліваю, усе мы, і царква, павінны разумець — мы суверэнныя і незалежныя».

«Ведаю, што ў нас ёсць шмат святароў, якія чагосьці чакаюць ад прэзідэнта. Яшчэ раз падкрэсліваю — не месца сёння дэбатаваць на гэтую тэму, мы гэта абмяркуем на нашай хуткай сустрэчы. Але галоўнае я сказаў — вы дзейнічаеце у суверэннай і незалежнай дзяржаве. У нас заўсёды была адзіная і прыгожая царква, я маю на ўвазе не толькі нашы будынкі і храмы, — душой народа была царква. І яна заўсёды такі застанецца». «Нікому не будзе дазволена парушыць адзінства нашай царквы. Як хочаце, так і разумейце мяне. Царква ў нас была прыкладам для перайманя ва ўсім свеце. Такім яна і застанецца». «Недахопы ёсць усюды, але ў нас у цэлым добрыя святары. Дай Бог, каб такія былі ў любой дзяржаве. І я думаю, што здаровыя сілы, а іх пераважная большасць, заўсёды будуць месць і перавагу ў вызначэнні шляхоў развіцця нашай царквы, роўна як і нашай дзяржавы».



**Мікола Бугай**

# Беларускія епіскапы: хто яны?

Працяг са старонкі 1.

Узнікла Маладзечанская і Стаўбцоўская, Слуцкая і Салігорская, а таксама Лідская і Смаргонская. Палітыку драблення епархій праводзіць патрыярх Кірыл. Існуюць розныя меркаванні, дзеля чаго гэта робіцца. Добразычліўцы Кірыла кажуць, што такім чынам царква спрабуе зрабіць епіскапаў больш даступнымі для звычайных людзей. Непрыяцелі ж сцвярджаюць, што такім чынам Кірыла спрабуе ўзвысіцца над астатнімі архірэямі, змяншаючы іх значэнне.

Пра беларускіх епіскапаў кажуць, што гэта асцярожныя людзі, якія рэдка робяць публічныя заявы. З пятнаццаці епіскапаў аж шэсць нарадзіліся за межамі Беларусі, дзевяцёра — тутэйшыя.

### Рускі мір у Віцебску

Месца нараджэння не заўсёды пра нешта гаворыць. Самым прарасійскім сярод беларускіх епіскапаў называюць Дзмітрыя (Драздова), епіскапа Віцебскага і Аршанскага. Яму 61 год, ён родам з Бабруйска, працаваў на дрэваапрацоўцы ў Івацэвічах. У 1982 годзе скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію.

Ад 1977 года Дзмітрый быў іпадыяканам у патрыярха Пімена.

Іпадыякан — гэта такі служка, які носіць за архірэем падчас служэнняў рыпіду, падсцілае пад ногі арлец (кілімчык), а таксама амывае рукі. У канцы існавання СССР ён быў «гасцінічным» у Троіцка-Сергіевай лаўры ў Маскве.

Ад 1989 ён узначальвае Віцебскую епархію. Менавіта пры ёй знайшлі прытулак многія прарасійскія актывісты, такія як былы чыноўнік Андрэй Герашчанка. Яго звольнілі з дзяржаўнай службы за адмову прызнаваць незалежнасць Беларусі. Лукашэнка называў гэтага чалавека дыверсантам. Цяпер Герашчанка працуе рэдактарам газеты Віцебскай епархіі «Наше православие», якая друкуе гутаркі з баевікамі «ДНР» і «ЛНР».

На чарнасоценскіх расійскіх сайтах вядомым з'яўляецца такі персанаж, як «віцебскі дзяк Анатоль Шлыкаў», які называе беларускіх чыноўнікаў «ворагамі рускага света» і абяцае дзейнічаць «як у Данбасе».

### Епіскап Арцемій і матушка Гаўрыіла

Навіны аб прыхільніках «рускага свету» прыходзілі і з Гродзенскай епархіі. Аднак гаворка не пра архіепіскапа Арцемія (Кішчанку).

Прыхільнікі «рускага света» ў Гродне групуюцца вакол манастыра Раства Багародзіцы з матушкай Гаўрыілай (Глухавай), якая вядомая ўсёй краіне праз культ ката Пушка. Матушка актыўна прабіваецца да гродзенскіх чыноўнікаў і сілавікоў.

Гродзенскія праваслаўныя некалькі разоў прыцягвалі да сябе ўвагу грамадскасці за апошні год. «НН» пісала пра спартыўна-патрыятычныя маладзевыя праваслаўныя гурткі, дзе інструктарамі былі запрошаныя казакі, што адмаўляюць дзяржаўнасць Беларусі. А яшчэ ў Сапоцкіне прайшоў хрэсны ход з імперскімі сцягамі.



Стэфан Гомельскі не так даўно быў у цэнтры скандалу.



Архіепіскап Гурый вае з Захадам.

### Епіскап з добрай адукацыяй

Асобна ў шэрагу архірэяў стаіць епіскап Бабруйскі і Быхаўскі Серафім (Беланожка). Яму 42 гады, родам ён з расійскага Екацярынбурга, але з 13 гадоў жыў у Бабруйску. У Беланожкі выдатная адукацыя, прычым навучаўся ён ва ўніверсітэце Арыстоцеля ў Салоніках (Грэцыя), стажыраваўся ў Цюбінгенскім універсітэце (Германія), вывучаў англійскую мову ў Бірмінгемскім універсітэце.

Менавіта Серафім найчасцей прысутнічае на каталіцкіх імпрэзах ад імя Праваслаўнай царквы. Епіскап лічыць: «У нас супольныя каштоўнасці, якія мы нясём у свет, супольнае евангельскае сведчанне».

Некалі Беланожка быў выкладчыкам на факультэце тэалогіі ЕГУ, пасля — у БДУ. Пасля хваробы мітрапаліта Філарэта фактычна загадваў справамі факультэта.

Айцец Серафім адзначаўся і дастаткова смелымі ўчынкамі. Напрыклад, ён устаў на абарону бабруйскіх актывістаў АГП, якія спрабавалі на Дзяды ў 2011 здзейсніць ход ад Свята-Нікольскага храма да памятнага знака ахвярам сталінскіх рэпрэсій. Міліцыя склала пратаколы на ўдзельнікаў мерапрыемства. Серафім жа блаславіў настаяцеля царквы на абарону актывістаў у судзе.

Серафім вядомы таксама сваім перакананнем, што як мага болей маладых святароў павінны ісці ў манахі.

Працяг на старонцы 4.

# Беларускія епіскапы: хто яны?

Працяг са старонкі 3.

### Скандал вакол Стэфана

Адным з найбольш вядомых епіскапаў БПЦ стаў Стэфан (Нешчарэт), епіскап Гомельскі і Жлобінскі. Два гады таму ён аказаўся ў цэнтры «гей-скандалу», які ініцыяваў вядомы тэолаг, дыякан Кураеў. Кураеў тады надрукаваў шэраг расследаванняў пра гей-лобі ў праваслаўнай царкве. Ён апублікаваў некалькі допісаў, у якіх Стэфан абвінавачваецца ў разбэшчванні маладых семінарыстаў. Ніякай публічнай рэакцыі царквы не было. Тым не менш сцвярджалі, што Аляксандр Лукашэнка мусіў узнагародзіць епіскапа прэміяй «За духоўнае адраджэнне», аднак у апошні момант перадумаў.

Беларускі праваслаўны блогер, святар Аляксандр Шрамко спрачаўся з Кураевым па гэтым пытанні. Каб выстаўляць такія звесткі, трэба мець неаспрэчныя доказы, пісаў ён. У Кураева такіх не было.

Да епіскапа Стэфана ў Гомелі, сапраўды, ставяцца па-рознаму. Адны яго хваляць моцна, іншыя не любяць. Быць епіскапам Гомельскім пасля набожнага старца, усімі шанаванага Арыстарха, Стэфану няпроста. Дый увогуле ў царкве хапае ўласных плеткароў і зайздроснікаў.

### Фаварыты Філарэта

Епіскап Брэсцкі і Кобрынскі Іаан (Хама) зрабіў сабе імклівую кар'еру. Яго называлі «шэрым кардыналам БПЦ» часоў мітрапаліта Філарэта. Ён не служыў святаром у прыходах, а адразу стаў супрацоўнікам Мінскай епархіі, а праз нейкі час і яе сакратаром — у 30 усяго гадоў. Да гэтага сакратарамі епархіі станавіліся тытулаваныя, масцітыя святары, а не моладзь. У Мінску Іаан нажыў нямала ворагаў. Іаан, як, дарэчы, і Стэфан, паходзіць родам з Украіны, а менавіта з Львоўскай вобласці.

Яшчэ больш імклівую царкоўную кар'еру зрабіў Антоній (Даронін), епіскап Слуцкі і Салігорскі. Гэта самы малады архірэй БПЦ, яму 35 гадоў. Ён нарадзіўся ў Баку, але з шасці гадоў жыве ў Беларусі. Вучыўся ён у Швейцарыі. Антоній таксама не быў святаром на прыходах. І ён таксама быў асабістым сакратаром мітрапаліта Філарэта. Трапіць на прыём да Філарэта можна было толькі праз Антонія. На такой пасадзе хочаш не хочаш, а заслужыш нямала непрыяцеляў. Пры новым мітрапаліце Паўлу ў пачатку 2015 года адбылася хіратонія Дароніна ў епіскапы.

Антонія адзначаюць як аднаго з найбольш ініцыятыўных іерархаў.


Епіскап Серафім — царкоўны інтэлектуал.


Антоній — самы малады беларускі епіскап.

### Супраць уніі і Захаду

Пра архіепіскапа Пінскага і Лунінецкага Стэфана (Корзуна) кажуць, што ён даўно сябруе з упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леанідам Гулякам.

Імідж фундаменталіста мае архіепіскап Навагрудскі і Слонімскі Гурый (Апалько). Ён ніколі не вылучаўся дыпламатычнасцю. Менавіта Гурый вядомы публічнай крытыкай уніятаў. Менавіта Гурый найчасцей бэсціць «антыхрысціянскае» заходняе грамадства. Напрыклад, ён распаўсюджваў выдумкі пра помнік Сатане ў ЗША, пра ювенальнае заканадаўства скандынаўскіх краін. Пры гэтым ні словам не кажа пра духоўныя ўстоі ўласна ў Беларусі, якая займае першыя пазіцыі ў Еўропе па колькасці забойстваў, па ўжыванні алкаголю, па абортах. Дэмакратыю ж ён называе шырмай, праз якую спрабуюць навязаць чужую нам мараль.

Епіскапа Барысаўскага і Мар'інагорскага Веньяміна (Тупеку) нашы суразмоўцы называюць чалавекам памяркоўным, малітоўным. Ён быў сярод тых іерархаў БПЦ, хто адкрыта выказаўся супраць смяротнага пакарання ў Беларусі.

Як бачым, беларускія праваслаўныя іерархі — людзі розныя. Ёсць сярод іх дагматыкі, ёсць цемрашалы, рускія шавіністы, ёсць і прыхільнікі самакіраванасці Беларускай царквы. Аднак ад епіскапаў у цяперашняй сітуацыі мала што залежыць, бо ўсе рычагі ўлады належаць Маскве, патрыярху. І мітрапаліт Філарэт, і мітрапаліт Павел — родам не з Беларусі і ніяк не былі з Беларуссю звязаныя да свайго прызначэння.

У той жа час сярод беларускіх епіскапаў няма пакуль выразнага публічнага лідара, прызнанага ў гэтай якасці грамадствам і за межамі сваёй епархіі. Таму цяжка сказаць, на каго з іх зможа абаперціся Аляксандр Лукашэнка ў сваім жаданні дабіцца для беларускага праваслаўя большай самастойнасці.

Зміцер Панкавец

**Поўны спіс епіскапаў БПЦ**

**Дзімітрый (Драздоў)**, Віцебскі і Аршанскі — 62 гады, нарадзіўся ў Бабруйску

**Стэфан (Корзун)**, Пінскі і Лунінецкі — 71 год, вёска Корзуны, Чэрвеньскі раён

**Арцемій (Кішчанка)**, Гродзенскі і Ваўкавыскі — 63 гады, Мінск

**Гурый (Апалько)**, Навагрудскі і Слонімскі — 59 гадоў, пасёлак Льнозавод, Полацкі раён

**Феадосій (Більчанка)**, Полацкі і Глыбоцкі — 72 гады, Батумі (Грузія)

**Сафроній (Юшчук)**, Магілёўскі і Мсціслаўскі — 64 гады, вёска Кацельня-Баярская, Брэсцкі раён

**Іаан (Хама)**, Брэсцкі і Кобрынскі — 52 гады, Львоўская вобласць (Украіна)

**Стэфан (Нешчарэт)**, Гомельскі і Жлобінскі — 49 гадоў, Чарнігаўская вобласць (Украіна)

**Серафім (Беланожка)**, Бабруйскі і Быхаўскі — 42 гады, Свярдлоўск (Расія)

**Леанід (Філь)**, Тураўскі і Мазырскі — 55 гадоў, Хмяльніцкая вобласць (Украіна)

**Веніямін (Тупека)**, Барысаўскі і Мар'інагорскі — 47 гадоў, Лунінец

**Павел (Цімафеенкаў)**, Маладзечанскі і Стаўбцоўскі — 52 гады, Магілёў

**Антоній (Даронін)**, Слуцкі і Салігорскі — 35 гадоў, Баку (Азербайджан)

**Парфірый (Праднюк)**, Лідскі і Смаргонскі — 45 гадоў, Падлессе, Кобрынскі раён

**Пятро (Карпусюк)**, Дзятлаўскі — 56 гадоў, Брэст

# Філарэт, прыехаўшы ў Драздыда айца Фёдара Поўнага: «Нарэшце пачынаем жыць як людзі!»

«Ці можа святар быць багатым?» — запытаўся вядучы праграмы «Буйным планам» Марат Маркаў у протаіерэя Фёдара Поўнага.

Фёдар Поўны — самы набліжаны да Аляксандра Лукашэнкі святар. Ён удзельнічае ў паездках кіраўніка краіны з «сябрамі». Напрыклад, святкаваў разам з Юрыем Чыжом, Аляксандрам Шакуціным і іншымі перамогу Дар'і Домрачавай на Алімпіядзе ў Сочы.

Фёдар Поўны — адзіны святар, які займеў катэдж у Драздах. Пра яго і расказваў протаіерэй у эфіры «Беларусь-1». Дом Фёдара Поўнага ў Драздах. Рынкавы кошт — каля $1 мільёна.

«Як і ў многіх, у мяне таксама ёсць дом, але не так ужо і задарма ён быў мне дадзены. Я таксама браў крэдыт і выплачваў яго. Сам будаваў, сам даглядаю сад. У мяне ёсць сям'я — жонка і дачка. Натуральна, і ім павінна быць утульна і зручна жыць.

Аднойчы мітрапаліт Філарэт, пабываўшы ў нас у гасцях, прамовіў выбітныя па сваёй мудрасці словы: «Нарэшце пачынаем жыць як людзі!» — узгадаў Фёдар Поўны.



«Дый, увогуле, усе перасуды з нагоды катэджаў вельмі часта перабольшаныя. Даходзіць да таго, што нехта, па плётках, жыве ў палацах. А насамрэч гэта звычайны дом, які каштуе... ну як кватэра. І кожны яго можа адолець, калі захоча.

І яшчэ. Багаты — не значыць бездухоўны. Вельмі часта багацце даецца як узнагарода за працу, за пакуты, напрыклад, за высакародныя ўчынкі.

Не кожны можа быць багатым і не нашкодзіць сваёй душы. Калі грошы і рэчы становяцца істотнейшымі за Бога і людзей, гэта дрэнна. Калі багацце служыць на карысць людзям і грамадству, гэта нармальна і, напэўна, трэба».

БЮ


Айцец Фёдар Поўны мае асаблівы статус і палацык у Драздах.



# Надзел у «Драздах-2» далі Герою Расіі

**Касманаўт Алег Навіцкі аформіў дакументы яшчэ да заканчэння грамадскага абмеркавання праекта.**

23 лістапада 2015 года ў Мінску пачалося грамадскае абмеркаванне забудовы квартала ў Вяснінцы. Яго яшчэ называюць «Дразды-2».

Улада пыталася, ці згодныя людзі на змены ў папярэднім праекце забудовы. Асноўныя змены датычылі новых сацыяльна-забаўляльных аб'ектаў: гатэля, тэніснага цэнтра і цэнтра мастацкай гімнастыкі. Але заадно прапаноўвалася «нарэзаць» яшчэ пяць участкаў для будаўніцтва катэджаў.

У «Драздах-2» і так жыве каля паўсотні высокіх чыноўнікаў, а цяпер у іх шэрагах чакалася папаўненне.

Падчас грамадскага абмеркавання мінчукі, чые прыватныя дамы ў іншых раёнах сталіцы ідуць пад знос, звярнуліся да ўладаў з просьбай выдзеліць свабодныя ўчасткі ім. Прадказальна, іх прапанова засталася без увагі. Рынкавы кошт пустога надзела ў «Драздах-2» сягае паўмільёна даляраў, хто ж зробіць такі падарунак простым людзям?

Ужо 26 лістапада 2015 Мінгарвыканкам прыняў рашэнне №3244, паводле якога адзін з новаўтвораных надзелаў у водаахоўнай зоне выдзяляўся касманаўту беларускага паходжання, Герою Расіі Алегу Навіцкаму.

Грамадскае абмеркаванне яшчэ працягвалася, а Навіцкі ўжо паспеў аформіць дакументы. Касманаўт не мае беларускага грамадзянства, таму зямлю ва ўласнасць яму не далі. З ім была заключаная дамова арэнды. Паводле яе, Навіцкі арандуе зямлю ў «Драздах-2» на 98,5 года. За 15 сотак яму штогод давядзецца плаціць 3,4 мільёна рублёў. Прычым сума не будзе індэксавацца. Пара гадоў — і гэта стануць капейкі.

Упершыню пры выдзяленні элітных участкаў Мінгарвыканкам прымяніў арэндную схему. Раней надзелы афармляліся ва ўласнасць ці выдаваліся ў пажыццёвае спадчыннае валоданне. Гэта датычыла і замежнікаў. Напрыклад, дзяржаўны сакратар так званай «саюзнай дзяржавы», грамадзянін Расіі **Грыгорый Рапота,** які больш за 30 гадоў свайго жыцця аддаў замежнай выведцы ў савецкім КГБ і расійскім ФСБ, зможа перадаць дом у «Драздах-2» сваім дзецям.

**Ягор Марціновіч**

**Алег Навіцкі: «Я беларус»**

«Вядома, я — беларус. Люблю сваю радзіму, беларускую мову люблю. Усюды, дзе служыў, ведалі, што я беларус. У мяне на стале стаіць беларускі сцяжок. Калі мы адпраўляліся ў палёт, касманаўты сказалі: «Вось, яшчэ адзін беларус паляцеў». Я браў з сабой на арбіту наш дзяржаўны сцяг, сцяг Мінскай вобласці і Чэрвеня».

**Юлія Навіцкая, жонка: «Ён грамадзянін Расіі і расійскі касманаўт»**

«Некаторыя пішуць, што Навіцкі — першы касманаўт суверэннай Беларусі. Мне здаецца, гэта не зусім карэктна. Алег паступіў у лётнае вучылішча ў 1988 годзе, адпаведна, у 1988 годзе ён з'ехаў з Беларусі. Ён даваў прысягу яшчэ Савецкаму Саюзу і пасля распаду СССР застаўся ў Расіі. Ён грамадзянін Расіі і стаў расійскім 114-м касманаўтам».

**Алег Навіцкі**

Нар. 12 кастрычніка 1971 у Чэрвені. Скончыў Качынскую авіяцыйную вучэльню (1994) і Вайскова-паветраную акадэмію імя Гагарына (2006).

У 1995—2007 служыў лётчыкам, камандзірам звяна, камандзірам авіяцыйнай эскадрыллі расійскага паветранага войска. У 2009 атрымаў кваліфікацыю касманаўта-выпрабавальніка. Здзейсніў палёт у космас у 2012—2013, працаваў на борце Міжнароднай касмічнай станцыі 143 дні. Герой Расіі (2014).

Жыве ў Зорным гарадку ў Падмаскоўі.

Жонка — Юлія Навіцкая, журналіст часопіса «Солдаты России». Мае дачку.




# Што выгадна прывозіць з Расіі?

За адзін расійскі рубель просяць усяго 250 беларускіх рублёў. Гэта найменшы курс за апошнія паўгода. А ў самой Расіі даляр тым часам каштуе больш за 75 рублёў — гістарычны максімум.

Ці ўдасца беларусам у чарговы раз атрымаць выгаду ад эканамічнай сітуацыі ва ўсходняй суседцы і ці ёсць сэнс ехаць на закупы ў Расію?

### Аўто

Самы дарагі тавар, які вязуць з Расіі, — аўтамабілі.

Возьмем для параўнання самыя папулярныя мадэлі за мінулы год. «Атлант-М» прадае «Фальксвагены» і ў Расіі, і ў Беларусі. Новы «Пола» ў мінімальнай камплектацыі каштуе ў Мінску $8900 у эквіваленце. Такую ж машыну ў Маскве цяпер прадаюць за $7700. За апошні тыдзень цана ў даляравым выражэнні патаннела на $500.

«Рэно» таксама збіраецца на тэрыторыі Расіі. У выніку рэкамендаваная цана за «Сандэра» з рухавіком 1,6 л складае $7350, а ў Беларусі за машыну давядзецца заплаціць $8300.

Розніца цэнаў дарагіх аўтамабіляў прапарцыйна ўзрастае.

Зразумела, пры куплі машыны ў Расіі давядзецца дадаткова закладаць страты. Купцы неаднаразова сустракаліся і з махлярствам з боку тамтэйшых аўтадылераў.

**Хвалі паездак**

Першая хваля паездак адбылася зімой 2014 года, калі курс даляра вырас удвая, да 70 расійскіх рублёў. Для беларусаў асабліва плённым быў снежань. Аўтамабілі ў смаленскіх і маскоўскіх салонах тады скупляліся ў прамысловых колькасцях. Дэвальвацыя беларускага рубля і паступовае ўмацаванне расійскай валюты зрабілі паездкі на ўсход на закупы малаvarэнтабельнымі.

Справа зноў заварушылася летам 2015 года. Падзенне расійскага рубля было не такім адчувальным — з 50 да 70 рублёў за даляр.

### Тэхніка

Самы просты варыянт найноўшага тэлефона iPhone 6s каштуе ў маскоўскіх інтэрнэт-крамах $660. Мінскія прадаўцы просяць за яго $720.

У каталогах беларускіх інтэрнэт-крамаў «Самсунг А5» ацэньваюць на $295. У Маскве канкурэнцыя большая, некаторыя зніжаюць цану да $235.

Розніца ў цэнах закранае і іншыя віды тэхнікі, напрыклад тэлевізары. 42-цалявы тэлевізар LG 42LF650V у Мінску прадаецца роўна за $500. Па той бок мяжы цана апускаецца да $430.

### Прадукты

З цэнамі на прадукты не ўсё так відавочна. Мераца прасцей каталогамі найбуйнейшых сетак — «Еўраопта» і «Магніта». Возьмем некалькі адвольных прадуктаў.

Паўкілаграмовы хлеб — па 6—7 тысяч беларускіх рублёў у абедзвюх краінах.

Дзясятак яек С1 — 15 тысяч у Беларусі супраць 17 тысяч у Расіі.

Апельсіны ў Беларусі каштуюць 19 тысяч за кілаграм. У Расіі цана фактычна такая самая — 20 тысяч.

Для многіх спажыўцоў мае вялікае значэнне цана гарэлкі. Мінімальная рознічная цана ў Расіі складае 46 тысяч рублёў, у Беларусі — 53 тысячы.

**Ягор Марціновіч**

# Сярэдняя двухпакаёўка ў Мінску за год патаннела на $20 тысяч

На сталічным рынку жылля колькасць выстаўленых на продаж кватэр складае каля 9 тысяч, але колькасць заключаных угодаў падае. Купцы чакаюць далейшага абвалу цэн, і сітуацыя адпавядае іх чаканням.

Сярэдняя цана квадратнага метра ў лістападзе апусцілася да $1251. Усяго ж за год лічба паменшала на $415.

Цана прапановы квадратнага метра вышэйшая. Паводле *Realt.by*, гаспадары спрабуюць прадаць сваю нерухомасць з розніцу $1325 за квадратны метр. Для параўнання, год таму лічба складала $1720.

Фактычна кожны ўласнік сярэдняй мінскай двухпакаёўкі (50 м²) страціў па $20 тысяч.

**ЯМ**

## Сціісла

**Золатавалютныя рэзервы на мінімуме**

Па выніках снежня 2015 года золатавалютныя рэзервы Беларусі скараціліся на $408 мільёнаў. Цяпер запас складае ўсяго $4,2 мільярда. Гэта мінімум з 2011 года. Сітуацыя ў фінансах існоў стала вельмі трывожная.

**Кітай абмежаваў продаж даляраў**

Улады Кітая далі банкам вуснае распараджэнне аб абмежаванні продажаў даляраў кампаніям і фізічным асобам. Адзначаецца, што такім чынам Кітай спрабуе змагацца з адтокам капіталу, які апошнім часам узмацніўся.

Усяго за 2015 год золатавалютныя рэзервы Кітая скараціліся на $500 мільярдаў! Пекін патраціў іх на падтрымку эканомікі і курса юаня. Эканоміка Кітая расце ўсё павальней, існуе небяспека спаўзання краіны ў стагнацыю. Праўда, у рэзервах у Кітая ўсё яшчэ застаецца $3,33 трыльёна — досыць, каб пратрымацца шмат гадоў.

**ЯМ**

# Як выкладчык камунізму стаў

Гісторыя поспеху гаспадара «Марка» і члена савета рэспублікі **Мікалая Мартынава**.

Абутковы холдынг «Марка» атрымлівае бюджэтны крэдыт памерам 200 мільярдаў рублёў пад... 3% гадавых. Пры цяперашнім курсе даляра гэта каля $10,5 мільёна ў эквіваленце.

Гаспадар холдынга — бізнэсовец Мікалай Мартынаў. Ён — адзін з доўгажыхароў савета рэспублікі, абіраецца туды трэці раз запар. Ён жа сярод лідараў краіны па колькасці прыватызаваных прадпрыемстваў.

«Наша Ніва» склала гісторыю поспеху самага ўплывовага віцебскага бізнэсоўца.

### Дубровенскі раён — самы бедны

Мартынавы паходзяць з вёскі Гудава-Зямянскае Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Вёска не была вялікай і за савецкімі часамі, а цяпер канчаткова вымірае — на зімоўку застаюцца толькі некалькі старых.

«У Савецкім Саюзе самай беднай была Беларусь. У Беларусі самая бедная — Віцебская вобласць. Ну а на Віцебшчыне самы жабрацкі — Дубровенскі раён», — смяецца Антаніна Зайцава, сястра мільянера, якая жыве ў суседняй вёсцы. Кажа, што бачыла дабрабыт балтыйскіх краін.

Бацька сям'і, Васіль Мартынаў, быў найлепшым на ўсю акругу шапавалам. «Летам ставіў у хатах вокны, ну а зімой валёнкамі займаўся. І пры гэтым яшчэ бухгалтарам быў, — расказвае дачка. — Матэрыял на валёнкі быў свой, бо ўся вёска трымала авечак».

Попыт на саваробны абутак быў высокім. Вяскоўцы куплялі скураны абутак толькі на святы, а ў штодзённым жыцці карысталіся валёнкамі.

Мікалаю Мартынаву, які стаў абутковым магнатам, грэх не лічыць бацьку пачынальнікам дынастыі.

Маці ўсё жыццё працавала ў калгасе. «Дзеда па матчынай лініі раскулачылі і выслалі. Таму можна ўгледзець дзедаву рысу», — расказвае бізнэсовец пра карані сваёй прадпрымальнасці.

У сям'і Мартынавых было пяцёра дзяцей. Спачатку адна за адной нарадзіліся тры сястры, а пасля двое братоў.

Малодшы, Віктар, працаваў менеджарам у бізнэс-імперыі «Марка», цяпер у яго свой бізнэс. Ён быў дэпутатам у Віцебскім гарсавеце.

Бацькоў ужо няма ў жывых. Мікалай адрамантаваў хату і выкарыстоўвае яе ў якасці лецішча.

### Палітолаг з інстытута кампартыі

Базавую школу Мікалай Мартынаў скончыў у родным Гудаве-Зямянскім, сярэднія класы вучыўся ў Сіпішчаве. У войска ён не трапіў па стане здароўя і пасля заканчэння школы паступіў у віцебскі тэхнікум.

Адвучыўшыся, у 1978 годзе стаў памочнікам майстра на віцебскай трыкатажнай фабрыцы «КІМ». Паводле афіцыйнай біяграфіі, за наступнае дзесяцігоддзе ніякіх зменаў у ягоным працоўным жыцці не адбывалася.

Жонка Мартынава паходзіць з Талачынскага раёна. Знаёмыя сям'і кажуць, што яе бацькі істотна дапамаглі Мікалаю стаць на ногі.

У канцы 1980-х разам з сям'ёй ён ездзіў па еўрапейскай частцы Савецкага Саюза — ад Балтыйскага да Азоўскага мора. Падарожнічаў на ўласных «Жыгулях».

Вышэйшую адукацыю Мартынаў атрымаў толькі ў 32 гады. У 1991 годзе, калі развальваўся Савецкі Саюз, ён давучыўся на палітолага ў Інстытуце палітычнай і сацыяльнага кіравання КПБ, прычым на дзённым аддзяленні. Зрэшты, працаваць выкладчыкам так і не давялося.

Цікава, што ў біяграфіі бізнэсоўца ўзгадваецца яшчэ і «пачэсны» статус — «члена-карэспандэнта Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій». Гэта ненавуковая грамадская арганізацыя, сябры якой раздаюць адзін аднаму фіктыўныя званні. У гэтай жа ўстанове «акадэмікам» ў свой час быў міністр юстыцыі Віктар Галаванаў.

### Абутковая сталіца Беларусі

У 1980-я на тэрыторыі Беларусі прабіваліся першыя парасткі прыватнага бізнэсу. Адной з праяваў кааперацыі савецкай планавай эканомікі і заходняга капіталізму стала адкрыццё «Белвеста». Заснавальнікамі сталі віцебская абутковая фабрыка «Чырвоны кастрычнік» (55% акцый) і нямецкая кампанія «Саламандар» (45%).

У 1990 годзе Мартынаў стаў экспертам камерцыйнага аддзела «Белвеста». Гэта быў ягоны першы досвед працы з абутковым рынкам, калі не ўлічваць дапамогу бацьку.

«Думка пачаць сваю справу прыйшла на адпачынку ў Абхазіі. Паехалі дзікунамі з дзецьмі і, як многія, лічылі кожную капейку.



**Мікалай Мартынаў**

Нарадзіўся 1 жніўня 1957 у вёсцы Гудава-Зямянскае Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Інстытут палітыкалогіі і сацыяльнага кіравання КПБ (1991).

Гаспадар холдынга «Беларуская гарбарна-абутковая кампанія «Марка», буйны ўласнік нерухомасці на Віцебшчыне («Марка-Сіці»).

Займае 15-е месца ў рэйтынгу самых уплывовых і паспяховых бізнэсоўцаў Беларусі, 1-е месца на Віцебшчыне.

Член савета рэспублікі з 2004 года. Сябра Рады па развіцці прадпрымальніцтва.

Жанаты, мае двух дзяцей.

Гэта былі 1990-я гады, калі пачалі стварацца кааператывы. Мы гандлявалі цукрам, выраблялі пледы. Мінімальная апрацоўка футра давала 200—300% рэнтабельнасці. Грэх было гэтым не займацца», — узгадвае Мартынаў.

У выніку ў Віцебску з'явілася яшчэ адно абутковае прадпрыемства. 1991 год пазначаны як дата стварэння кампаніі «ЛМ+МК» (пазней перайменавана ў «Марка»), дырэктарам якой стаў Мартынаў. Гэта быў беларуска-нямецкі бізнэс, сумесны з нямецкай кампаніяй «Эвімекс».

У адным з інтэрв'ю Мартынаў прызнаўся, што на пачатку 1990-х паспеў пазаймацца і нафтапрадуктамі. Гэта сфера, у якую абы-хто прабіцца не мог. «У 1990-я, калі мы пачыналі, мае даходы не дазвалялі карміць сям'ю, не кажучы ўжо пра адпачынак раз на год», — пераконвае бізнэсовец.

### Скачок у лідары рынку

З цягам часу «Марка» (назва — скарот ад «МАРтынаў і КАмпанія») абагнала на беларускім рынку ўсіх канкурэнтаў. У склад холдынга цяпер уваходзяць тры прадпрыемствы. Асноўная розніца між імі ў спосабе вырабу абутку.

«Марка» спецыялізуецца на жаночым абутку клеявога метаду і мужчынскім ліцеёвым абутку.

На «Сан-Марка» робяць дзіцячы і клеявы мужчынскі абутак.

А ўключаны ў склад холдынга «Чырвоны кастрычнік» займаецца хатнім абуткам і абуткам метаду прамога прыліву.

На пачатку вытворчасці большасць сыравіны была імпартнай, аднак нашмат выгадней было выпускаць яе самому. Кампанія «Вікоп-Фабус» робіць калодкі для абутку, а «Вітма» — сумкі і галантарэйныя вырабы.

Агулам Мартынаў штогод выпускае 4 мільёны пар абутку. Гэта найбольшая лічба сярод вытворцаў у краінах СНД! Амаль палова прадукцыі ідзе на экспарт, пераважна ў Расію.

### Дзяржаўна-прыватны холдынг

«Марка» — прыватны бізнэс. Аднак у беларускіх рэаліях пры такіх аб'ёмах вытворчасці існаваць адасоблена ад дзяржавы Мартынаву было б складана. Дый і не факт, што хацелася. Сябе Мартынаў называе «дзяржаўным чалавекам». Нездарма ж тры разы запар бізнэсовец трапляў у савет рэспублікі.

Забеспячэнне насельніцтва адзеннем і абуткам — стратэгічна важныя сферы эканомікі. Вялікая доля імпартных тавараў на рынку вымывала з краіны валюту. Было вырашана ўзбуйняць «Марка» і ствараць на яго базе вытворчы холдынг поўнага ланцужка вытворчасці.

Указ аб стварэнні холдынга ўступіў у сілу ў канцы 2013 года. Хто быў ініцыятарам? «Гэта быў сустрэчны рух нашых прадпрыемстваў і дзяржавы», — каментуе Мартынаў.

Паводле ўказа, у склад «Марка» увайшоў Віцебскі футравы камбінат. Ён каштаваў бізнэсоўцу сімвалічную адну базавую велічыню.

Дзяржава паабяцала Мартынаву падтрымку для рэалізацыі інвестыцыйнага праекта. За тры гады на прадпрыемстве мусілі наладзіць штогадовую перапрацоўку 300 тысяч шкур аўчыны і 250 тысяч шкур пушной сыравіны, што дазволіла б у перспектыве зменшыць імпартны складнік пры вытворчасці абутку з 64% да 31%. Пасля рэалізацыі праекта дзяржава атрымала б долю акцый, прапарцыйную ўкладзеным грошам.

Указ прадугледжваў, што банкі выдадуць Мартынаву крэдыты на $50 мільёнаў на льготных умовах (у беларускіх рублях пад стаўку рэфінансавання + 3% альбо ў валюце пад узяты за мяжой крэдыт +2%). Аднак банкі праігнаравалі пажаданне. Інвестыцыйны праект аказаўся пад пагрозай. Тады Мартынаў пралабіраваў прыняцце яшчэ аднаго ўказа — як было згадана на пачатку тэксту, грошы пойдуць наўпрост з бюджэту.

Тым часам «Марка» выкупіла частку акцый беларуска-іспанскай кампаніі «Белкельме» з Белаазёрска.

Палова прадукцыі «Марка», выраблeнай для беларускага рынку, прадаецца праз фірмовыя крамы. Іх налічваецца ўжо паўсотні.




**Піраміды змянілі выгляд Віцебска.**

# пасняховым капіталістам

«Марка» — адна з нямногіх беларускіх кампаній, якая актыўна праводзіць акцыі і распродажы на еўрапейскі ўзор. Дапамагае бізнэсу і ўведзеная сертыфікацыя абутку, што выкінула з рынку многіх гандляроў. Мартынаў падтрымліваў гэтую рэформу.

Для эканоміі частка прадукцыі «Марка» вырабляецца ў Кітаі і Індыі.

### Ратаванне за 1 базавую

Мартынаў прыватызаваў не толькі «Чырвоны кастрычнік» і Віцебскі футравы камбінат. Быў яшчэ і Віцебскі піўны завод. «Была просьба ўладаў інвеставаць у прадпрыемства, якое аказалася на мяжы банкруцтва», — узгадвае Мартынаў. Праўда, заўважным гульцом на рынку «Дзвінскі бровар» так і не стаў.

На гэтую сітуацыю можна глядзець дваяка. З аднаго боку, прадпрыемствы дасталіся яму за бясцэнак. З іншага — з дапамогай Мартынава дзяржава спрабавала пакінуць тапельцаў на плаве.

### Відны мецэнат

Вуліца Талстога знаходзіцца ў гістарычным цэнтры Віцебска. Яна пачынаецца ад Рынкавай плошчы, на якой стаяць Ратуша, адбудаваная Свята-Уваскрасенская царква і помнік Альгерду, вядзе да Успенскага сабора са Свята-Духаўскім жаночым манастыром і ўрэшце спускаецца да Дзвіны.

Мартынаў дапамагаў пры аднаўленні Свята-Уваскрасенскай царквы, адліўшы за свае грошы з дзясятак званоў, за яго кошт былі рэканструяваныя і два гістарычныя дамы на вуліцы Талстога. За гэта адзін з будынкаў удалося забраць сабе. На першым паверсе тут адкрытая крама «Марка», а над ёй — некалькі апартаментаў.

Пяціпакаёвая кватэра плошчай пад 250 м² дасталася Мікалаю Мартынаву, а чатырохпакаёўкі — ягонаму брату Віктару і іх партнёру Мікалаю Кавалькову.

Насупраць дома — хутарок «Мікалаеўскі». Нескладана здагадацца, каму ён належыць. Перад хутарком падказка — скульптура святога Крыспіна, заступніка ўсіх шаўцоў і гарбароў.

### Піраміда Мартынава

Як і большасць буйных беларускіх бізнэсоўцаў, з цягам часу Мартынаў вырашыў заняцца гандлёвымі цэнтрамі. Ягоны гонар — васьміпавярховы «Марка-Сіці» ў цэнтры Віцебска побач з агромністым новым будынкам абласнога ўпраўлення КДБ.

«Марка-Сіці» паспеў стаць новай славутасцю горада праз агромністую піраміду пасярод плошчы. Падобная канструкцыя, толькі меншая, усталяваная на ўваходзе ў Луўр, стала сімвалам Парыжа. Меркаванні віцебчукоў наконт піраміды катэгарычна падзяліліся. Многія лічаць збудаванне выродлівым. А сам Мартынаў быў ад яго ў захапленні і вырашыў абсталяваць на версе піраміды свой кабінет.

Іншы профіль бізнэсу — грамадскае харчаванне. Адкрыццё бараў і рэстаранаў Мартынава суправаджалася скандаламі. «Галоўным упрыгожваннем інтэр'еру з'яўляюцца гіпсавыя бюсты Леніна і Сталіна. Паўметровы Іосіф Вісарыёнавіч, пыхкаючы люлькай, горда ўзвышаецца ў цэнтры над барнай стойкай. А ў куце, падпёршы галаву рукой, Уладзімір Ільіч разглядае публіку», — апісваліся інтэр'еры бара «Дзвінскі бровар». А ў рэстаране «Залаты леў», які працуе ў гістарычным будынку XIX стагоддзя, адну з залаў назвалі... «Сталінскім пакоем».


ЯНЯ ІЛЬНА, НАРОДНЫЯ НАВІНЫ ВІЦЕБСКА

На адкрыццё піраміды «Марка-Сіці» Мартынаў прыйшоў з сынам і ўнукамі.





Бізнэсовец атрымаў гістарычны дом у цэнтры Віцебска.

«Бацькі жылі пры сацыялістычным ладзе, які зжываў ініцыятыву. Больш за тое, у гады застою адбылася пэўная дэградацыя грамадства, спустошванне ўсякай самастойнай думкі», — пры гэтым разважае Мартынаў.

Сярод іншых няпрофільных актываў «Марка» — база адпачынку «Ходцы» на возеры Саро ў Сенненскім раёне.

Мартынаў — заўзяты паляўнічы.

### Пераемнасць сямейнага бізнэсу

У сям'і Мартынава двое дзяцей, і абое працуюць у сямейным бізнэсе. Сын Павел узначальвае «Сан-Марка». Ён скончыў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт, павучыўся і ў Італіі. У яго двое дзяцей.

Дачка Раіса скончыла той самы ўніверсітэт. У «Марка» яна працуе намесніцай бацькі. Яе спецыялізацыя — замежнаэканамічная дзейнасць. Раіса займаецца пастаўкамі імпартных матэрыялаў, а некалькі гадоў таму прапанавала асвойваць рынак Еўрасаюза. Так «Марка» стала прадавацца ў Латвіі. Раіса гадуе трох дзяцей.

Некалькі гадоў таму ў камерцыйным аддзеле працавала і жонка Мартынава.

### Шчаслівы леў

Знаёмыя Мікалая Мартынава адзначаюць ягоную ўвагу да дробных сімвалаў. Па знаку задыяка ён леў. І менавіта гэты звер стаў ягоным талісманам.

Леў размешчаны на эмблеме «Марка», трапіў ён і ў назву рэстарана Мартынава.

Сімвалам віцебскага заапарку доўгі час быў леў Рыгус. Пасля яго смерці Мікалай Мартынаў аплаціў куплю новага львяняці, якога прывезлі з Калінінграда. Маленькага льва назвалі Маркам у гонар абутковай кампаніі. Вось толькі неўзабаве работнікі заапарку зразумелі, што замест ільва ім дасталася... львіца. Давялося змяніць імя на Маркушу.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч**

# У расійскай бальніцы доктар адным ударам забіў пацыента

Той зачапіў медсястру, а хірург вырашыў адпомсціць.

Падзеі, якія адбыліся ў прыёмным пакоі гарадской бальніцы №2 расійскага Белгарада, абмяркоўвае цэлы свет.

Трагічнае здарэнне адбылося 29 снежня. 57-гадовы Яўген Вахцін паскардзіўся на боль у жываце. З падазрэннем на страўнікавы крывацёк яго адправілі глытаць зонд. Калі сталі прамываць страўнік, ён махнуў нагой у бок медсястры — ці то ўдарыў знарок, ці то машынальна зрэагаваў на пачатак непрыемнай працэдуры.

Тая паскардзілася на пацыента доктару. Хірург Ілля Зелятдзінаў вырашыў уласнаручна разабрацца ў сітуацыі.

Калі Вахцін і мужчына, які яго суправаджаў, сядзелі ў прыёмным пакоі, да іх падскочыў доктар — усё гэта ёсць на дзесяціхвілінным відэа з камер назірання, апублікаваным у інтэрнэце.

Медсястра паказала рукой на свайго крыўдзіцеля. Пасля кароткай сваркі хірург схапіў Вахціна і пачаў збіваць яго. Пацыент быў накаўтаваны моцным ударам у галаву і ўпаў, тым часам доктар тузаўся з ягоным сябрам.

Праз некаторы час пасля бойкі адна з прысутных у пакоі жанчын звярнула ўвагу калегаў на той факт, што мужчына, які ўпаў, «нейкі ўвесь сіні стаў» і не падае прыкмет жыцця.

Дактары, сярод якіх быў і той, які збіў пацыента, паспрабавалі аказаць пацярпеламу першую дапамогу і правесці рэанімацыйныя дзеянні. Але ўсё марна. Удар у галаву быў настолькі моцным і дакладным, што Вахцін памёр на месцы.

Неўзабаве ў пакой прыцягнулі каталку, каб адвезці нябожчыка. Тым часам прыбіральшчыца з анучай і вядром вады змыла з падлогі кроў. На гэтым відэазапіс сканчаецца.

Што адбылося пасля? Хірурга Іллю Зелятдзінава звольнілі з бальніцы. На яго заведзеная крымінальная справа за «прычыненне смерці па неасцярожнасці», максімальнае пакаранне за якое — два гады калоніі. На час следства Зелятдзінава выпусцілі пад падпіску аб нявыездзе.

Адвакат доктара заявіў, што той раскайваецца і збіраецца пакрыць сваякам загінулага выдаткі на пахаванне і памінкі — каля $2 тысяч. Сужыцелька Вахціна заявіла, што цалкам атрымала кампенсацыю і прэтэнзій больш не мае.

**Браніслаў Юрэвіч**

## ДАІ прапануе не штрафаваць за язду да 80 км/г па горадзе

МУС прапануе лібералізаваць КаАП для аўтамабілістаў. Пра гэта заявіў начальнік галоўнага ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі МУС Раман Мельнік, як паведамляе БелТА.

Ён прапануе «лаяльна рэагаваць на нязначныя парушэнні Правілаў дарожнага руху». Сярод магчымых зменаў — адмена адказнасці за перавышэнне хуткасці руху ад 10 да 20 км/г.

«Гэта будзе спрыяць узаемаразуменню між супрацоўнікамі ДАІ і кіроўцамі», — сказаў Раман Мельнік.

У выпадку рэалізацыі гэтага новаўвядзення ў населеных пунктах можна будзе ездзіць без штрафу на хуткасці 80 км/г. Такая ж норма дзейнічае ў Расіі. А вось еўрапейскія краіны для бяспекі пешаходаў строга абмяжоўваюць хуткасць перасоўвання ў гарадах — не больш за 50 км/г.

Адмена адказнасці за дробныя парушэнні дазволіць выправіць статыстыку. За 2015 год было зарэгістравана каля 3,8 мільёна правапарушэнняў, з іх за перавышэнне хуткасці — амаль 890 тысяч. Лічба істотна вырасла пасля ўвядзення фотафіксацыі парушэнняў хуткасці.

**ЯМ**



**Алег Мініч стварыў 3D-рэканструкцыі Навагрудскага замка**

Майстар камп'ютарнай анімацыі грунтаваўся на гравюрах мастака Сташчанюка і гіпотэзах гісторыка Ткачова.

## Памёр Дэвід Боўі

Музыкант памёр ад раку ў 69 гадоў.

Ад раку ён лячыўся паўтара года.

Брытанскі рок-спявак Дэвід Боўі стаў вядомы ў 1969 годзе з песняй *«Space Oddity»*. Потым былі хіт *«Starman»*, *«Fame»*, напісаны ў суаўтарстве з Джонам Ленанам.

На працягу сваёй кар'еры ён прадаў больш за 136 млн дыскаў.

Але хвароба не мінае ні багатых, ні слаўных.

**АГ**



## «Ленінград» выканаў «Москва, по ком звонят» у прысутнасці Пугачовай і Газманава



У інтэрнэт трапіў запіс, як расійскі гурт «Ленінград» выканаў сваю вострасатырычную песню «Москва, по ком звонят...» на фестывалі «Новая хваля».

«Вы ж нікому не раскажаце? Тут жа ўсе свае?» — жартаваў перад песняй саліст гурту Шнураў.

«Хвалю» ў 2015-м перанеслі з Юрмалы ў Сочы ў рамках культурнага змагання з Еўропай.

Герою песні «вчера приснился сон прекрасный: Москва сгорела целиком». Згарэлі Пусі, Пуцін і Сабчак, і «ля сцены крамлёўскай елі гарэлі а..енна так», — спявае Шнураў. «А дома ждали россияне, когда остынут кирпичи», — падводзіць вынік «Ленінград».

Расійская поп-легенда Ала Пугачова вясялілася, прыдворны спявак Газманаў баяўся пасміхнуцца, губернатар Краснадарскага края рабіў выгляд, што яго няма. А гледачы, па просьбе спевака, рукамі актыўна «стваралі вецер».

Москва, по ком звонят твои колокола?
Москва, по чем твои златые купола?

Песня высмейвае царкоўных хціўцаў з іх залатымі купаламі і намякае на нянавісць Расіі да зажратай Масквы. Калі б такую песню напісаў украінец ці беларус, узнялі б крык пра русафобію. Але Шнураў — рускі з рускіх...

«Мы губляемся, што б вам такога заспяваць яшчэ, каб вам за гэта нічога не было. Нам то нічога не будзе, а вам каб нічога не было», — жартаваў Шнураў пасля песні.

Ска-панк-гурт «Ленінград» актыўна ўводзіць у сваю творчасць рускі мат. Часам Шнураў вострa крытыкуе расійскую рэчаіснасць.

**Сяргей Гезгала**

На сэрцы

## Феі Вальгалы на мінскіх могілках



Піша **Кацярына Кібальчыч.**

Зборны вобраз нашых беларускіх цётак я называю «Леанідаўна». Вы таксама іх ведаеце: «Маладыя людзі, куды ідзём?», «Сцяпанаўна, бяры накладную!» Усе гэтыя вахцёркі, касіркі, работніцы сталовых, ЖЭСаў. Леанідаўнай была адна з маіх бабуль (бухгалтар Паўлаўна), таму я гэты тыпаж добра ведаю.

Спрачацца з Леанідаўнай усё роўна, што выйсці з рагаткай супраць танка. Перамагчы яе нерэальна. Але можна разжаліць і перацягнуць на свой бок. Для гэтага Леанідаўна павінна адчуваць, што ты здаўся, усвядоміў сваю мізэрнасць і перадаў свой нікчэмны лёс у яе рукі. Тады яна сама цябе накорміць, нягледзячы на тэхнічны перапынак, падпіша даведку, за якой толькі што адпраўляла на іншы канец горада, «бракнет Францаўне», каб тая дачакалася і прыняла цябе сёння пасля працоўнага дня. Карацей, з Леанідаўнай можна жыць.

У гэтыя святы я адкрыла для сябе зусім новы падвід Леанідаўны.

Дзед мой памёр на Каляды. Напярэдадні новага года я ездзіла па ўсіх гэтых змрочных кантора у Мінску, у якіх таксама жывуць Леанідаўны. Морг, «Спецкамбінат КБА» (так называецца арганізацыя, якая размяркоўвае магілы), могілкі Міханавічы.

Тут свая субкультура. Гэтых цётак я адразу сама сабе назвала «феі вальгалы». Яны апранутыя з выклікам: джынсавыя ўстаўкі, чорныя рушы, стразы, абцас, фарба, шмат золата, нават самая сціплая мае дзіўныя пазногці. І вось яна кажа мне: «На могілках Заходніх багністая зямля, труны плаваюць... (Паўза.) Могілкі Міханавічы прадстаўляем толькі з нашымі паслугамі (катафалк, грузчыкі). — Але ў вас на сайце нічога...» — «Гэта вуснае распараджэнне дырэктара, вы можаце адмовіцца ад паслуг і прыехаць у працоўны дзень...»

Могілкавая Леанідаўна бязлітасная — перад ёй так вось усе плачуць. Вядома, я замаўляю гэты ўбогі катафалк (утрая даражэйшы), з даху капае на аксамітную труну і нам з бабуляй на галаву.

Каля брамы могілак сустракаю яшчэ адну фею рангам ніжэй: камуфляжная ватоўка, гранатавыя завушніцы па 4 сантыметры, пазногці з чырвона-фіялетавым малюнкам. «Хто ў вас галоўны сваяк? Рэкамендуем замовіць пясчаны ўзгорак на магілу (100$). Можаце адмовіцца, але раптам па вашым участку будуць хадзіць ці выпадкова побач пахаваюць...» Раптам і выпадкова гучала як абавязкова. «Хлопчыкам, хто капае, аддзячце па сваім жаданні».

Труну апусцілі ў гліну на краі могілак каля кучы будаўнічага смецця. Жадання «дзякаваць» не было. Я сказала: дзякуй, да пабачэння. «А вось да пабачэння нам не кажуць. Зараз пойдзеце з магілы, не азірайцеся і не вяртайцеся». Як быццам і праўда тут служаць дэманы, а не звычайныя людзі.

Я дайшла да машыны, павярнулася і паглядзела на магілу дзеда. Гэта быў мой адзіны бунт супраць сістэмы.

**Facebook.com, Кацярына Кібальчыч**

# У Кітаі знеслі аграмадную статую Мао Цзэдуну, яна прастаяла ўсяго тры дні

У кітайскай правінцыі Хэнань разбурылі 36-метровую статую Мао Цзэдуна, будаўніцтва якой завяршылася 5 студзеня. Пра гэта піша *Bangkok Post*.

Па словах мясцовых чыноўнікаў, прычына, чаму манумент было вырашана знесці, незразумелая. Па версіі выдання, праект асудзілі ўлады, пры гэтым не ўдакладняецца, чаму яго аўтары не пракансультаваліся з кіраўніцтвам краіны перад пачаткам работ.

На будаўніцтва помніка з бетону і сталі, пафарбаванага ў залатое, было затрачана тры мільёны юаняў (каля 460 тысяч даляраў). Сродкі збіралі жыхары вёскі ў павеце Тунсюй, каля якой і паўстала статуя Вялікага Стырнавога. Вяскоўцы спадзяваліся, што манумент прыцягне ў рэгіён турыстаў.

Каментуючы навіну пра з'яўленне статуі, карыстальнікі кітайскіх сацсетак высмейвалі фатаграфіі бетоннага Мао.

Мао Цзэдун — кітайскі палітычны дзеяч, які кіраваў КНР з моманту яе заснавання ў 1949 годзе і да сваёй смерці ў 1976-м. Мао меркаваў, што Кітаю неабходна асаблівая версія камуністычнай дактрыны. Сёння ў КНР дзейнасць Вялікага Стырнавога афіцыйна ацэньваецца так: 70 працэнтаў перамог і 30 працэнтаў памылак.



Свецкае жыццё

## Леанарда Дзі Капрыа і Келі Рорбах разышліся

Галівудскі акцёр Леанарда Дзі Капрыа разышоўся з мадэлькай Келі Рорбах. Афіцыйнай падставай для разрыву адносін сталі «шчыльныя працоўныя графікі зорак». Леанарда і Келі вырашылі застацца сябрамі.





## Х'ю Лоры іграе медыка ў новым серыяле

Брытанскі акцёр Х'ю Лоры, вядомы выкананнем галоўнай ролі ў серыяле «Доктар Хаўс», зноў сыграе лекара, піша *The Guardian*.

Лоры выканае ролю спецыяліста па судовай нейрапсіхіятрыі Элдана Чэнса ў серыяле *Chance*.

У новага персанажа Лоры таксама будуць складанасці ва ўзаемаадносінах з калегамі.

Яго герой у новым серыяле перажывае крызіс пасля разводу і вырашае праблемы дачкі-падлетка.

Акрамя таго, Х'ю Лоры і Том Хідлстан здымуцца ў новым шпіёнскім серыяле.

Невядомая гісторыя

## Як Вера Харужая адмовілася стаць «польскай шпіёнкай»

Галоўным даносчыкам выступіў муж Веры Захараўны — Скульскі, ён жа Мертэнс Станіслаў Адамовіч, нядаўні паплечнік па падпольнай барацьбе. У 1937 годзе, калі па Веру прыйшлі, пільнага Скульскага ўжо не было ў жывых. Так распарадзіўся лёс, што ён (які сам, дарэчы, спазнаў чэкісцкага хлеба) з іх дваіх першым стаў ахвярай сталінскага тэрору. Трагічны парадокс — але, магчыма, менавіта дадзеная акалічнасць выратавала тады жыццё яго былой жонцы. Але і яна правяла ў турме два гады...

Чытайце на nn.by

## У Японіі чыгунка працуе дзеля адной школьніцы

Як паведамляюць кітайскія СМІ, чыгуначная станцыя Камі-Сіратакі на востраве Хакайда ў Японіі працуе дзеля аднаго пасажыра.

Тры гады таму японскія чыгункі прынялі рашэнне аб прыпыненні руху па непапулярным і аддаленым кірунку. Аднак даведаўшыся пра тое, што на станцыі Камі-Сіратакі жыве школьніца, чыгуначнікі прынялі рашэнне часткова аднавіць рух.

Цягнікі спыняюцца на гэтай станцыі толькі два разы на дзень у розны час — у залежнасці ад таго, калі ў дзяўчынкі ўрокі.

У сакавіку 2016 дзяўчынка скончыць школу. Пасля гэтага рух па гэтай лініі спыніцца зусім.



Кіно

## Доўгі шлях да помсты

Выжылы
**Жанр:** трылер, драма, прыгоды
**Рэжысёр:** Алехандра Гансалес Іньярыту
**У ролях:** Леанарда Дзі Капрыа, Том Хардзі, Донал Глісан, Уіл Поўлтар, Пол Андэрсан, Крыстафер Ёнер, Джошуа Бёрдж
ЗША, 156 хв.
**Адзнака:** 8

Пачатак XIX стагоддзя, паўночны захад Амерыкі. На трапера і следапыта Х'ю Гласа нападае мядзведзіца. Група паляўнічых дзеліцца на дзве часткі, з цяжкапараненым Гласам застаюцца яго сын Хоўк і двое паляўнічых — Джон Фіцджэральд і юнак Джым Брыджар. Яны павінны дачакацца смерці Гласа і пахаваць яго, але замест гэтага Фіцджэральд забівае Хоўка і пераконвае Брыджара кінуць Гласа. Насуперак абставінам следапыт выжывае і адпраўляецца ў небяспечны шлях, каб адпомсціць за забойства сына.

Сцэнар заснаваны на аднайменным рамане Майкла Панке 2003 года і быў напісаны Алехандра Іньярыту і Маркам Смітам. Ён часткова выкарыстоўвае падзеі жыцця каланіста Х'ю Гласа, упершыню апісаны *New Dealera Federal Writers' Project* у 1939 годзе. Тады Гласа назвалі «самым разглаваным чалавекам у гісторыі ЗША».

У галоўнай ролі зняўся Леанарда Дзі Капрыа. Ролю забойцы выканаў брытанец Том Хардзі («Шалёны Макс: Дарога лютасці», 2015), а вайскоўца — Эндру Генры, кіраўніка той самай экспедыцыі сыграў ірландзец Донал Глісан, вядомы па ролі Біла Уізлі ў стужцы «Гары Потэр і дары смерці».

Па жаданні Іньярыту фільм быў зняты ў храналагічнай паслядоўнасці на прыродзе пры натуральным асвятленні і без выкарыстання зялёных экранаў. Здымкі прайшлі ў Брытанскай Калумбіі і Альберце (Канада), а таксама на поўдні Аргенціны.

Блакітны колер заснежаных бяскрайніх лясоў у фільме пераважае. Падзеі адбываюцца на фоне прыроднага багацця заходняй Амерыкі і смяротных сутычак з індзейцамі. У фільме зняліся некалькі маладых зорак індзейскага паходжання і шмат масоўкі.

Летась Іньярыту атрымаў «Оскара» за фільм «Бёрдмэн». Сёлета рэжысёру дастаўся «Залаты глобус» за найлепшы драматычны фільм, а Дзі Капрыа — за найлепшую мужчынскую ролю. Паводле ацэнак крытыкаў, акцёр, які пяць разоў намінаваўся на «Оскар», але ні разу яго не заваяваў, можа атрымаць чарговую намінацыю на аб'яве спісу 14 студзеня.




**Настасся Уласава**

У арыгінальнай гісторыі, запісанай у 1939 годзе, шлях цяжкапараненага Х'ю Гласа да найбліжэйшага форта Кіова склаў каля 300 км і заняў 38 дзён. Большую частку шляху ён быў вымушаны прапаўзці, але ў дарозе яму дапамаглі прыязна настроеныя індзейцы. Нагнаць Фіцджэральда і Брыджара следапыт змог толькі праз 9 месяцаў, але да таго часу яго жаданне помсты згасла.

# Камерсанты верацЬ Лукашэнку і не збіраюцца выходзіць на вуліцы

Больш за тысячу індывідуальных прадпрымальнікаў сабралася ў гасцініцы «Беларусь» на **антыкрызісны форум**.



Словы аб тым, што Лукашэнку падаюць непраўдзівую інфармацыю, гэтыя людзі сустрэлі авацыямі.

«Мяккая зала» гатэля не магла змясціць усіх ахвотных. Некалькі соцень чалавек тоўпіліся ў фае, там нічога чуваць не было. Панавала атмасфера базару. Зрэшты, як інакш, калі разам збіраюцца гандляры.

«Што там?» — пытаецца мужчына, спрабуючы ўціснуцца ў залу. «Ды фіг яго ведае», — адказвае другі, якому так і не ўдалося нічога пачуць. Калі ў натоўпе ўзгадвалі прозвішча кагосьці з чыноўнікаў, то звычайна далей ішла нецэнзурная лексіка.

На сцэне тым часам красаваўся Анатоль Шумчанка. Публічныя выступы — гэта тое, дзе лідар «Перспектывы» пачуваецца вельмі камфортна. Шумчанка адразу стаў супрацьпастаўляць «нас, народ», і «іх, чыноўнікаў».

Ён расказваў пра сустрэчу з намеснікам міністра эканомікі. «Ваш прэзідэнт кажа, што трэба ісці ад жыцця». «Не трэба крыўдзіцца на народ, іншых людзей у вас не будзе», — сказаў Шумчанка, звяртаючыся да ўладаў.

«Нам патрэбныя перамовы з урадам», — гэтыя словы выклікалі апладысменты ў зале.

«Крамам канфіскату Кіраўніцтва справаў прэзідэнта патрэбныя новыя тавары». Зала зноў узрываецца воплескамі. Прысутныя дастаткова бурна рэагавалі на ўсё, што рабілася на сцэне. З залы час ад часу гучала абурэнне, напрыклад, што прадпрыемству «Марка» нядаўна выдзелілі буйны крэдыт усяго пад 3%. «А хто нам дасць?» — крычаць людзі.

Шумчанка даводзіў, што ўказ №222 аб сертыфікацыі тавараў стварыў «сацыяльны канфлікт» у грамадстве. У выніку форум прадпрымальнікаў паставіў перад сабой тры мэты:

1. адмена ўказа №222 аб сертыфікацыі тавараў;
2. увядзенне мараторыю на канфіскацыю тавараў;
3. зьмяншэнне падаткаў для ІП, пакуль заробкі ў краіне не дасягнуць тысячы даляраў.

Шумчанка намякаў, што прадпрымальнікі могуць пайсці на збор подпісаў для правядзення рэферэндуму. «Няўжо мы не зьбяром 50 тысяч подпісаў?» — «Зьбяром», — шматгалоса адказвае зала. Варта адзначыць, што яшчэ ні разу Лідзія Ярмошына не прызнавала ініцыятыўную групу па зборы подпісаў для рэферэндуму.

А напрыканцы сваёй палымянай прамовы лідар «Перспектывы» сказаў, што ўсё ж 80—90% працэнтаў ІПэшнікаў маглі б працаваць з сертыфікатамі, а іх абурае менавіта канфіскацыя прадукцыі падаткавікамі.

Наступны на сцэну падымаецца намеснік міністра гандлю Андрэй Мяшкоў.

Калі Шумчанка хадзіў з мікрафонам па сцэне, як пратэстанцкі пастар, то Мяшкоў строга стаў за трыбуну. Гэты ўжо немалады сівы чалавек размаўляў строгай канцылярскай мовай.

«Давай сваімі словамі» — гудзе зала. «Тых, хто будзе выкрыкваць з месца, выведзем з залы», — адказвае Шумчанка.

Мяшкоў кажа, што патрэбна ствараць перамоўную групу на базе Міністэрства эканомікі, чым хутчэй гэта будзе зроблена, тым лепш. Чыноўнік, у сваю чаргу, назваў тэму «кроватачывай праблемай».

Амаль у гэты самы момант нехта з залы пачаў скардзіцца, што ў апошніх шэрагах рыхтуюцца правакацыі. Справа ў тым, што прадпрымальнік і грамадскі актывіст Аляксандр Макаеў стаў агітаваць прысутных, каб яны 18 студзеня выходзілі пратэставаць на Кастрычніцкую плошчу. Шумчанка даў загад вывесці Макаева з памяшкання, людзі загудзелі ў знак згоды. Некалькі дужых мужыкоў пайшлі выконваць патрабаванне. «Гэта правакатары і падонкі», — дабавіў Шумчанка.

Ён усяляк спрабаваў паказаць, што прадпрымальнікі не будуць выходзіць на вуліцы. «Мы потым ад гэтага не адмыемся», — зазначыў лідар «Перспектывы».

Варта заўважыць, што не далі выступіць на форуме і лідарцы «Гавары праўду» Тацціяне Караткевіч, ёй не далі мікрафона.

Некалькі выступаў людзей з рэгіёнаў былі абсалютна эпічныя. Старая песня пра тое, што «цар добры, а баяры кепскія». Святлана Калачова з Гомеля ад «імя ўсіх ІП» звяртаецца да Лукашэнкі «як да галавы нашай дзяржавы».

«У нашай краіне вялікая праблема, толькі вы можаце яе вырашыць. Мы, індывідуальныя прадпрымальнікі, не можам здзяйсняць ад 1 студзеня сваю дзейнасць. У нас няма магчымасці пераходзіць на новую сістэму. ІПэшнікі засталіся без сродкаў для існавання. Вам няправільна чыноўнікі перадаюць інфармацыю. Каму выгадна сутыкаць ваш народ з уладай? Аляксандр Рыгоравіч, умяшайцеся ў сітуацыю. Пачуйце нас, калі ласка», — настолькі магутных апладысментаў у той дзень больш не гучала. У канцы выступу Калачова падняла свой беларускі пашпарт у знак таго, што не хоча з'язджаць з краіны. Усе людзі сустрэлі гэта воплескамі і крыкамі «адмена, адмена». Самы эмацыйны момант форуму.

На гэтым мерапрыемства можна было сканчваць.

**Зміцер Панкавец**

# Пяць фактаў аб прадпрымальніцкім лідару Анатолю Шумчанку

«НН» сабрала факты з біяграфіі старшыні прадпрымальніцкай арганізацыі **«Перспектыва» Анатоля Шумчанкі**.



### Родам з Мінска, вучыўся ў ПТВ

Анатолю Шумчанку 40 гадоў, ён нарадзіўся і вырас у Мінску. Бацька быў рабочым, маці працавала на заводзе «Інтэграл». Ён скончыў камерцыйны Міжнародны гуманітарна-эканамічны ўніверсітэт, перад гэтым навучаўся ў ПТВ-222. Шумчанка не карыстаецца беларускай мовай, кажа, што ў школе не навучылі.

У сферу ІП трапіў маладым, у 22 гады быў прадаўцом на рынку «Дынама». Праз нейкі час сам стаў прадпрымальнікам, меў некалькі палатак на рынку «Ждановічы», на сёння бізнэсу не мае, сканцэнтраваны на грамадскай рабоце. Яшчэ да «Перспектывы» ён узначальваў «Аб'яднаную раду прадпрымальнікаў».

### Хацеў стаць прэзідэнтам

У 2004 годзе Анатоль Шумчанка ў інтэрв'ю газеце «Наша Ніва» не хаваў сваіх прэзідэнцкіх амбіцый: «Мною рухае імкненне ўладкаваць уласнае жыццё, жыццё маёй сям'і, пастаянную плынь фінансаў, мець свабоду выказванняў і ўчынкаў. Калі б у мяне ўсё гэта было, то я б не займаўся грамадскай дзейнасцю. Пакуль гэтага не будзе, я буду працаваць на змены. Калі для гэтага трэба будзе стаць прэзідэнтам, я стану. Я ж бачу, колькі разумных людзей навокал. Трэба, каб ім далі шанец рэалізаваць свае здольнасці», — казаў тады Шумчанка.

### Таямнічая крымінальная справа

У 2005 годзе пачалося новае супрацьстаянне ўлады і прадпрымальнікаў. Ад 1 студзеня 2005 года ІП мусілі сплачваць падатак на дададуную вартасць, які складаў 18% ад цаны тавару. 1 сакавіка некалькі тысяч прадпрымальнікаў выйшлі на Кастрычніцкую плошчу з патрабаваннем адмены падатку. У выніку Анатоль Шумчанка быў арыштаваны на 10 сутак, аднак па сканчэнні тэрміну на волю не выйшаў. Ужо ў ізалятары на яго была заведзеная крымінальная справа па артыкуле 339 КК «Хуліганства». Маўляў, Шумчанка збіў сукамерніка.

31 сакавіка ён нечакана для ўсіх выйшаў на волю, бо пракуратура палічыла, што гэтая справа мае «малую значнасць». Што стаяла за гэтым вызваленнем, было зразумела не ўсім.

### Перастаў супрацоўнічаць з апазіцыяй

У першыя гады сваёй грамадскай дзейнасці Шумчанка актыўна камунікаваў з апазіцыйнымі палітыкамі. Напрыклад, ён разам з Мікалаем Статкевіч быў ініцыятарам стварэння аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі, якая так і не паўстала. А «Перспектыва» ўваходзіла ў кааліцыю партый і арганізацый, якія ставілі на мэту ўступленне Беларусі ў Еўрасаюз.

З цягам часу Шумчанка адышоў ад палітычных патрабаванняў, сканцэнтраваўся на праблемах прадпрымальнікаў. Напрыклад, ён адмовіўся браць удзел у Кангрэсе дэмсіл па выбарах адзінага кандыдата ад апазіцыі ў 2005 годзе.

### «Ганіце ад сябе розных Шумчанкаў»

Апошнія буйныя вулічныя акцыі прадпрымальнікаў прайшлі ў студзені 2008 года. Тады прадпрымальнікі і грамадскія актывісты нават перакрывалі праспект, а таксама патрабавалі выклікаць кіраўніцтва краіны на перамовы. Анатоль Шумчанка якраз і накіраваўся на перамовы ў Адміністрацыю прэзідэнта, дзе сустракаўся з загадчыцай галоўнага эканамічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Інай Мядзведзевай (сённяшняй кіраўнічкай Белстата). Пасля вяртання Шумчанкі з перамоваў яго затрымалі і асудзілі на 10 сутак.

Той пратэст скончыўся «Справай чатырнаццаці», калі на лаве падсудных аказаліся маладзевыя актывісты.

У 2014 годзе на адной з нарад па развіцці прадпрымальніцтва Аляксандр Лукашэнка нечакана ўзгадаў кіраўніка «Перспектывы» Анатоля Шумчанку. Ён сказаў: «Ганіце ад сябе розных там Шумчанкаў, ці то яшчэ кагосьці, каб яны нават блізка каля вас не стаялі».

Анатоль Шумчанка жанаты, разам з жонкай Вольгай гадуюць дачку Ганну.

**ЗП**

# Другі раз за жыццё прысудзілі да расстрэлу

Жыхар Вілейкі быў **асуджаны на смерць** у савецкі час, але пасля перагледзелі прысуд.

У судзе Вілейскага раёна вынесены смяротны прысуд жыхару Вілейкі Генадзю Якавіцкаму, абвінавачанаму ў забойстве сваёй сужыцелькі.

Якавіцкі нарадзіўся ў 1967 годзе ў Грузіі, дзе служыў яго бацька. Пасля сям'я вярнулася на радзіму, у Беларусь.

Першы раз Генадзь быў асуджаны ў 17 гадоў — разам з прыяцелем забраў бутэльку віна ў мінака.

Праз год пасля вызвалення Якавіцкі ажаніўся з непаўналетняй, бо яна зацяжарыла. «Дачцэ было ўсяго два месяцы, калі яго прысудзілі да расстрэлу», — расказала Наталля ў інтэрв'ю naviny.by.

На працы Генадзь пасварыўся з калегам і ўдарыў яго. Ад атрыманых траўмаў той памёр. А праз некалькі дзён Якавіцкі апынуўся ў кампаніі прыяцеляў, якія згвалцілі і жорстка забілі дзяўчыну. Генадзь узяў віну на сябе.

Быў вынесены смяротны прысуд, але пасля скаргі ў Вярхоўны суд расстрэльны прысуд змянілі на пазбаўленне волі. У СССР не існавала пажыццёвага зняволення, таму тэрмін склаў 15 гадоў. Жонка не стала чакаць яго і падала на развод, хоць і захоўвала сяброўскія адносіны.

Апошнія два гады Генадзь сужыцельстваваў з жыхаркай Вілейкі Таццянай. Па версіі следства, ён яе і забіў. Якавіцкі быў настолькі п'яным, што не памятае падзеі таго дня. У адной кампаніі з ім былі яшчэ некалькі чалавек. Яны далі супярэчлівыя паказанні, аднак меркавалі, што вінаваты менавіта Якавіцкі — ён нанёс некалькі ўдараў кулакамі па целе Таццяны.

Па словах былой жонкі, на судзе Генадзь заявіў, што словы сабутыльнікаў — хлусня. Але дадаў: маўляў, калі вы вырашылі, што я вінаваты, я гэта прызнаю.

Рашэнне пакуль не ўступіла ў законную сілу і можа быць абскарджана. Гэта першы смяротны прысуд, вынесены ў 2016 годзе.

БЮ

## Ашуканцы міжкантынентальнага ўзроўню

Махляры **«прадавалі» беларусам алмазы** з Намібіі і Уганды, для пераканаўчасці нават вазілі кліентаў у Афрыку.

Выяўлена, што план падману і крадзяжу грошай распрацаваў 51-гадовы жыхар Гродзенскай вобласці. Акрамя яго, у склад арганізаванай групы ўваходзілі яшчэ двое мужчын, 1976 і 1977 гадоў нараджэння.

План быў у тым, што для патэнцыйных купцоў, якія жадаюць набыць каштоўныя камяні, ствараўся вобраз людзей, здольных аказаць дапамогу ў набыцці алмазаў у краінах Афрыкі. Для гэтага лжэгандляры распаўсюджвалі непраўдзівыя звесткі аб наяўнасці сувязяў з асобамі, якія займаюцца здабычай і продажам алмазаў на афрыканскім кантыненце. Для тых, хто сумняваўся, ашуканцы нават арганізоўвалі паездкі ў Намібію і Уганду, каб прадэманстраваць прапанаваныя камяні.

Пасля атрымання грошай члены арганізаванай групы, каб адвесці ад сябе падазрэнні і стварыць бачнасць выканання са свайго боку ўсіх дамоўных абавязацельстваў, абвінавачвалі купцоў у парушэнні дамоўленасцей, дасягнутых паміж бакамі. А ў адным выпадку нават арганізавалі фальшывае затрыманне аднаго з пацярпелых праваахоўнымі органамі Рэспублікі Уганда і спрабавалі атрымаць ад жонкі апошняга грошы за яго вызваленне з «турмы».

Па такой схеме ашуканцы паспяхова працавалі з 2011 па 2014 год. Агулам па крымінальнай справе выяўлена 11 пацярпелых. Агульная сума нанесенай шкоды ў эквіваленце складае больш за $700 тысяч.

Ашуканцы знаходзяцца пад вартай. Ім выстаўлена абвінавачванне ў махлярстве, якое здзейснена ў асабліва буйным памеры.

«Гандлярам» пагражае да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

УШ



# 20-гадовы хлопец спрабаваў павесіцца ў жодзінскім СІЗА

Ён **спадзяваўся правучыць следчых** уласным самагубствам.



Пра гэта паведаміла маці Ягора Пратасені, асуджанага за распаўсюд наркотыкаў.

Што сын у бальніцы, жанчыне паведамілі ў жодзінскім СІЗА.

Яна распытала персанал і даведалася, што 20-гадовага Ягора дасталі з пятлі і ён знаходзіцца ў цяжкім стане без станоўчай дынамікі.

«Апошні раз я бачылася з сынам 19 снежня, у нас была сустрэча. Ён казаў, што хоча паканчыць з сабою, каб «правучыць» следчых. Таксама ён не раз пісаў пра гэтыя планы ў лістах, пісаў, што з яго здзекуюцца, таму ён хоча засіліцца. Я яго адгаворвала, не думала, што ён насамрэч наважыцца», — сказала Святлана Пратасеня.

Навіна пра гэтае здарэнне выклікала вялікія дэбаты ў інтэрнэце.

Арцём Гарбацэвіч

# Памыліўся і зарэзаў

У Светлагорску мужчына памыліўся адрасам, раззлаваўся і зарэзаў гаспадара кватэры.

Днём 4 студзеня ў адну са светлагорскіх кватэр пагрукаў невядомы мужчына. Як аказалася, п'яны госць шукаў сваячку. Гаспадар растлумачыў, што той памыліўся адрасам і зачыніў дзверы. Праз некаторы час у кватэру зноў пагрукалі. На парозе стаяў усё той жа мужчына і зноў патрабаваў, каб сваячка выйшла да яго.

«Гаспадар адказаў, што нічым не можа дапамагчы, і паспрабаваў зачыніць дзверы, — распавяла папярэднюю версію падзей афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава. — Аднак незнаёмы прааявіў настойлівасць, на парозе завязалася бойка. Нечакана буян дастаў свой нож і пырнуў гаспадара кватэры ў грудзі».

Сведкам бойкі стаў госць пацярпелага. Калі ён паспрабаваў разняць мужчын, нападнік уцёк. Відавочца выклікаў хуткую дапамогу, паведаміў аб нападзе ў міліцыю і апісаў прыкметы злачынца.

Пацярпелага мужчыну даставілі ў бальніцу ў рэанімацыйнае аддзяленне. Аднак рана аказалася смяротнай, ноччу ён памёр. Падазраванага затрымаў дзяжурны патруль міліцыі на цэнтральнай плошчы Светлагорска. Госцем аказаўся 39-гадовы непрацуючы мясцовы жыхар. Па факце забойства ў дачыненні да яго заведзена крымінальная справа.

Уладзіслаў Швядовіч

## Грамадзянін Даніі загінуў на Століншчыне

Аварыя са смяротным зыходам адбылася раніцай 10 студзеня на трасе Івацэвічы—Пінск—Столін.

72-гадовы грамадзянін Даніі, кіруючы аўтамабілем «Таёта Скарлет», выехаў на сустрэчную паласу, дзе лоб у лоб сутыкнуўся з «Мерсэдэсам», за рулём якога ехала 42-гадовая жыхарка Пінска.

У выніку сутыкнення мужчына загінуў на месцы. Жанчына даставленая ў Столінскую цэнтральную раённую бальніцу, у яе закрытая чэрапна-мазгавая траўма, страсенне мазгоў, рваная рана языка.



Вядома, што загінулы пражываў у Століне і яго ўжо 6 разоў прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці за перавышэнне хуткасці.

УШ

## Спроба — не хвароба, думала жанчына, спрабуючы пранесці ў калонію наркотыкі ў інтымным месцы

Жыхар Брэста, якога не раз судзілі за наркотыкі, вызваліўся пасля адбыцця чарговага пакарання каля сямі месяцаў таму. Але плёну пакаранне не дало. Разам са сваёй сужыцелькай мужчына вярнуўся да старой дзейнасці — вырабу і рэалізацыі наркотыкаў. Неўзабаве яго зноў затрымалі. Па месцы жыхарства фігурантаў крымінальнай справы былі знойдзены марыхуана, опій, розныя таблеткі і вырабленыя з іх прэпараты. Таксама ў ходзе следства вызначаны трое грамадзян (жыхары Берасця, Жабінкі і Драгічына), якім збывалі наркотыкі. Зрэшты, частку небяспечных рэчываў абвінавачаныя ўжывалі і самі.

Але найбольшую цікавасць у крымінальнай справе выклікае эпізод, звязаны са спробай наладзіць дастаўку наркотыкаў у папраўчую калонію. Менавіта там адбываў пакаранне патэнцыйны спажывец прадукту, вырабленага злачыннай парай.

Для правядзення аперацыі вытворцы звярнуліся па дапамогу да сваіх знаёмых. Аднак з падрабязнасцямі вырашылі іх не знаёміць, проста папрасілі даставіць палімерны пакет са скруткам на тэрыторыю папраўчай установы. У пасылцы была марыхуана і парашкападобнае рэчыва, якое змяшчае небяспечны псіхатроп — псеўдаэфедрын. Адзін з «кур'ераў» забраў пакет у вытворцаў і на чыгуначным вакзале перадаў яго сваёй сяброўцы. Тая, папярэдне схаваўшы «перадачу» ў інтымным месцы, адправілася на тэрыторыю калоніі. Аднак доўгачаканае спатканне не адбылося: жанчыну затрымалі супрацоўнікі міліцыі і канфіскавалі скрутак.

Галоўныя фігуранты крымінальнай справы ўжо паўсталі перад судом. У жніўні 2015 суд Ленінскага раёна Брэста прызначыў 13 гадоў пазбаўлення волі мужчыну, а яго хаўрусніцы — 11 гадоў пазбаўлення волі.

УШ

### Сціслa

**Развіталася з суседзямі і...**

9 студзеня мінскія ратавальнікі прыехалі ў кватэру, з якой ішоў дым. Там яны знайшлі абгарэлы труп пенсіянеркі. Жанчына была на ўліку ў псіханеўралагічным дыспансеры. Днём яна развіталася з суседзямі. Хутчэй за ўсё, яна скончыла жыццё самагубствам.

**Работніца банка падкрадала з банкаўскіх сейфаў**

Загадчыца каморы каштоўнасцей аднаго са жлобінскіх банкаў за некалькі гадоў накрала са сховішча на 20 тысяч даляраў. Распачата крымінальная справа, праводзіцца праверка.

**Прыехаў у госці**

У Магілёве жыхар Варкуты, які прыехаў у госці да маці, на Новы год збіў сяброўку, мясцовую жыхарку. Ён выклікаў хуткую і спачатку казаў, што жанчына звалілася ў пад'ездзе, але высветлілася, што ў траўмах вінаваты ён. Некалькі дзён жанчына правяла ў коме, потым памерла.

**Загінулі пад Бабруйскам**

У Бабруйскім раёне сутыкнуліся дзве машыны. Кіроўца і пасажыр адной з іх загінулі на месцы. Падрабязнасці высвятляюцца.

**У Полацкім раёне ў старой жанчыны скралі казу**

78-гадовая бабуля паведаміла, што невядомы скраў казу з яе незачыненага хлева. Шкоду яна ацаніла на 4 мільёны рублёў. Міліцыя высветліла, што злачынства здзейсніў 30-гадовы беспрацоўны мясцовы жыхар. Заведзена крымінальная справа.

УШ

# Зыгмунт і Апалонія

Гісторыя кахання і вернасці. Піша **Васіль Герасімчык**.

Вільня. 1863-ы. Імглісты суботні чэрвеньскі ранак. Па горадзе разносіцца грукат барабанаў.

Апалонія каторую гадзіну на нагах, чакае апошняй сустрэчы з мужам. Яшчэ ненароджанае малое ўвесь час варушыцца, быццам штосьці адчувае.

Раптам дзверы ў яе пакойчык адчыніліся, і праз іх прасунулася масіўная постаць паліцмайстара. Апалонія падалася насустрач, быццам матыль на святло, але паліцмайстар запыніў яе і халодным афіцыйным голасам прамовіў: «Августейшій государь возвращал вашему мужу свою мілость, чины, почесті і посты прі условіі, выдвінутом генерал-губернатором Муравьёвым, — открыть імена ліц, прінадлежащіх к Національному правітельству. Ваш муж отклоніл монаршую мілость, не открыл требуемых імен і потому сейчас, когда я это говорю, погібает позорной смертью на віселіце».

Непрытомную Апалонію паліцмайстар паклаў на ложак і са спакойным сумленнем выйшаў з пакоя цяпер ужо ўдавы Зыгмунта Серакоўскага: загад Мураўёва ён выканаў беззаганна.

### Першая прыгажуня Літвы

Зыгмунт пакахаў яе ад першае ж сустрэчы, калі вясною 1860 наведаў у Вільні старых сяброў — братоў Францішка і Аляксандра Далеўскіх, што вярнуліся з сібірскай ссылкі. Іх маладзейшая на 15 гадоў сястра Апалонія, «першая прыгажуня Літвы», яшчэ не мела спакою ад залётнікаў, была таксама ўражана сустрэчай з 33-гадовым афіцэрам Генеральнага штаба: «Зацікаўленая, я глядзела і думала: дзіўны твар, я выдзеліла б яго сярод тысяч самых разумных людзей. Здзіўляў выраз розуму, энергіі, рашучасці, і пры гэтым дзіўная прамяністасць вялікіх цёмна-шэра-блакітных вачэй, якія адлюстроўвалі кожную думку, кожнае пачуццё. Усё аблічча гэтага чалавека з першага позірку захоплівала, прыкоўвала да сябе».

Наступная іх сустрэча здарылася толькі праз год, калі Серакоўскі вярнуўся з замежнай камандзіроўкі. Там ён вывучаў досвед еўрапейскіх армій і таемна сустракаўся з Гарыбальдзі, Падлеўскім, Міраслаўскім, Герцэнам і Бакуніным. Патрыёт зніклай Рэчы Паспалітай, Зыгмунт, нягледзячы на адбытую ў юнацтве ссылку на Урале, лічыў, што зможа сумяшчаць свае погляды з працай на карысць Расіі; верыў, што «нашыя сыны ці ўнукі ўбачаць, можа быць, цесныя братэрскія саюзы ўсіх народаў: германскіх, раманскіх, славянскіх — і, нарэшце, агульны еўрапейскі саюз».

Атрыманае летам 1861 ад вайсковага міністра даручэнне — правесці агляд крэпасцяў Віленскай акругі — Серакоўскі выкарыстаў, каб наведваць у сталіцы краю Далеўскіх. Найбольш часу ён праводзіў не з Аляксандрам, Францішкам і Ціtусам, а з іх сястрою Апалоніяй. У Пецярбург Зыгмунт з'язджаў упэўнены, што знайшоў жанчыну, з якой хацеў бы звязаць сваё жыццё.

Яны лістуюцца, але перапіска раптоўна перарываецца на пачатку 1862-га. Серакоўскі не знаходзіў сабе месца: у апошнім з адасланых у Вільню лістоў ён прапанаваў Апалоніі стаць яго жонкай. Адказ не прыйшоў.

Каб заглушыць боль, Зыгмунт з галавой кідаецца ў працу, удасканальваючы свой праект рэформы войска. У 1861 у Расійскай Імперыі было ліквідавана прыгонніцтва, але ў адносінах да салдатаў працягвалі прымяняцца цялесныя пакаранні — Серакоўскі хацеў дамагчыся іх адмены. А на яго сумеснай з Янам Станевічам, таксама афіцэрам Генеральнага штаба, кватэры зімовымі вечарамі збіраецца гурток з ліку студэнтаў і афіцэраў — выхадцаў з Літвы і Беларусі.



Зыгмунт Серакоўскі.




Апалонія Далеўская.

Зыгмунт не ведаў, што маці Апалоніі — Дамініка Далеўская — была супраць шлюбу дачкі. І адаслала тую ў Ковенскую губерню, у мястэчка Кейданы, да сястры Юліі. Сястра была замужам за Беркманам, настаўнікам гімназіі і ўдзельнікам таемнай паўстанцкай арганізацыі. Менавіта з Кейданаў пры канцы сакавіка Зыгмунт атрымаў доўгачаканы ліст, у якім Апалонія напісала ўсяго некалькі радкоў, сярод якіх «я згодная».

На пачатку ліпеня Зыгмунта накіравалі ў Заходнюю Еўропу на шэсць месяцаў для дэталёвага знаёмства з парадкамі вайскова-выпраўленчых устаноў замежных армій. І ён адразу ж едзе ў Вільню, разам з сябрам Янам Станевічам. Адтуль выпраўляецца ў Кейданы і запрашае на вяселле студэнцкага таварыша Якуба Гейштара, будучага кіраўніка «белых» у паўстанні 1863.

### Апошняя мазурка

У невялічкай хаце Беркманаў сабралася ўся сям'я Далеўскіх і запрошаныя сябры, сярод якіх Кастусь Каліноўскі і Антон Мацкевіч.

Шлюб адбыўся ў нядзелю 30 ліпеня (11 жніўня) 1862 у фарным касцёле св. Юзафа. Пазней Якуб Гейштар узгадваў: «Я адзін неяк стаў на ўзбочч, бо мне было цяжка на сэрцы. Зыгмунт, паклаўшы мне руку на плячо, загаварыў: «А што ж, Куба, ці ты мне не пажадаеш?» О, я б яму і неба пажадаў! З узрушэннем я адказаў, звяртаючыся да абаіх, зычыў ім, каб знайшлі ў сабе ўзаемную радасць і моц для змагання з жыццём, бо шлюб — гэта саюз на вякі і не толькі на сумесную радасць, але і сумесны боль».

Вяселле Зыгмунта і Апалоніі, якое пазней назвалі «апошняй мазуркай у Літве», прыцягнула ўвагу рускіх жандармаў. Край быў на вайсковым становішчы, і ўсе масавыя мерапрыемствы былі забароненыя. У хату Беркмана завіталі «блакітныя мундзіры», але, пабачыўшы аксельбанты Генеральнага штаба на жаніху і яго сябры, рэціраваліся.

У Кейданах Зыгмунт прабыў тыдзень, а затым з жонкай праз Вільню і Варшаву выехаў за мяжу. Камандзіроўка ператварылася ў вясельнае падарожжа. Вена, затым Парыж. Днём Серакоўскі працаваў у архівах і бібліятэках, а вечарамі з жонкай наведваў музеі і тэатры. Але ў хуткім часе Апалонія захварэла і яе прыйшлося адправіць з Францыі дахаты.

У студзені 1863 капітан Серакоўскі вяртаецца ў Пецярбург і перадае ваеннаму міністру Мілюціну канчатковы праект аб адмене шпіцрутэнаў. На 17 красавіка было прызначана абвяшчэнне загаду аб адмене цялесных пакаранняў, за распрацоўку якога Серакоўскі атрымліваў чын палкоўніка.

### «Мяне падманулі»

Але пра гэта Зыгмунт ужо не даведаўся, бо яшчэ 22 сакавіка (3 красавіка) выехаў у Вільню, дзе прыняў пасаду камандуючага паўстанцкімі сіламі Ковенскай губерні. Угаварыў яго Якуб Гейштар, які напярэдадні пад пагрозаю выдачы ўладам прозвішчаў «чырвоных» адхіліў ад кіраўніцтва паўстаннем Каліноўскага. Гейштар запэўніў Серакоўскага, што ўсё былое Вялікае Княства гатовае да паўстання як адзін чалавек, што паўсюль у паветах створаны запасы зброі і боепрыпасаў, а добраахвотнікі толькі і чакаюць сігналу. Гэта, мякка кажучы, было перабольшаннем, паколькі ўся праца Гейштара перад паўстаннем складалася з вандровак па шляхецкіх з'ездах і паездак у Варшаву.

3 (15) красавіка Серакоўскі разам з Апалоніяй прыбыў у Коўна. Пасля размовы з Баляславам Длускім, паплечнікам Каліноўскага, Зыгмунт зразумеў, што Гейштар яго падставіў. Якуб вырашыў скарыстацца аўтарытэтам афіцэра Генеральнага штаба, каб аб'яднаць паўстанцкія атрады, якія не хацелі падпарадкоўвацца «белым». «Мяне падманулі, ніхто і нішто не чакае мяне тут, акрамя смерці», — сказаў Зыгмунт жонцы. Але адступаць было позна. Серакоўскі адправіў Апалонію ў Кейданы, а сам накіраваўся ў панявежскія лясы арганізоўваць паўстанцкія сілы.

### Місія князя Шахаўскога

Пасля некалькіх паспяховых аперацый Серакоўскага была жудасная параза пад Біржамі, Зыгмунт трапіў у палон. Яго выдала памешчыца Касцялкоўская, якая пашкадавала цяжкапараненаму брычку для перапраўкі ў Польшчу.

Куля раздрабіла Серакоўскаму тры рабры, але выявілі гэта не адразу і таму тройчы рабілі аперацыю. Быў нават складзены план па яго выкрадanні і вывазе на чаўне ў бліжэйшы атрад, але паўстанец, каб не рызыкаваць сябрамі, не дазволіў яго здзейсніць.

Да параненага быў накіраваны адзін са сваякоў Мураўёва — князь Шахаўскі, вядомы сваімі ліберальнымі заявамі. Ён ведаў Серакоўскага па ўніверсітэце і акадэміі. Каля шпітальнага ложка Шахаўскі паспрабаваў разыграць ролю сябра і прапанаваў выдаць удзельнікаў паўстання. Пасля правалу гэтай спробы Мураўёў загадаў «неадкладна адкрыць над Серакоўскім ваенна-палявы суд». Генерал-губернатар разлічваў, што пасля нядаўна праведзенай трэцяй аперацыі смяротны прысуд канчаткова зламае параненага і ён дасць «чістосердечные показанія».

### Павешанне замест расстрэлу

11 (23) чэрвеня каля ложка Зыгмунта адбыўся ваенна-палявы суд, які доўжыўся некалькі гадзін. Лісліўыя абяцанні чаргаваліся з пагрозамі, але нічога не прыносіла выніку. Таму суд прыняў рашэнне пакараць Серакоўскага смерцю.

13 чэрвеня Мураўёў зацвердзіў прысуд: «Определяю: Сераковского казніть смертью, но вместо расстрела — повесіть, ісполнів пріговор над нім в Вільно, на одной із площадей города публічно».

У ноч перад пакараннем Мураўёў зноў прапанаваў Серакоўскаму, са спасылкай на імператара, купіць жыццё і поўнае дараванне цаной здрады. Для большага ўздзеяння ў шпіталь да Зыгмунта прывезлі цяжарную Апалонію: «Усю дарогу я думала аб тым, каб утрымацца ад слёз, каб сваімі пакутамі не вярэдзіць яго раны. Каля ложка параненага стаяў стол, за якім сядзеў камендант Вяткін і нейкія члены камісіі, а ў дзвярах шэсць



**Васіль Герасімчык**

Гісторык. Нар. 1987. Скончыў Гродзенскі ўніверсітэт, магістратуру Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта і Торунскага ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка. Пераможца конкурсу «Найлепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага».

салдат, столькі ж за дзвярыма ў калідоры. Далі чвэрць гадзіны. Ад гэтых кароткіх пятнаццаці хвілін на ўсё доўгае цяжкае жыццё ў маёй памяці засталася бязмежная мука на твары любага, лоб, далоні і шчокі, якія гараць агнём, вочы его, якія ззяюць ад шчасця, вусны, якія радасна ўсміхаюцца. Я ўстала на калені каля ложка». Пра смяротны прысуд Апалонія пачула ад самога мужа: «Зыгмунт пры развітанні не меў нават ніводнага слова надзеі, каб палегчыць няшчасце».

Пасля кароткай сустрэчы глыбокай ноччу жонка атрымала праз вайсковага доктара Гарадкова наступную запіску на аркушы, выврваным з Бібліі: «Анэлі мая! Даведаўся ўчора, што жыць і быць вольным змагу пры адной умове — выдачы асобаў, якія кіруюць рухам. Не ведаю нікога, але гнеўна адказаў, што калі б і ведаў, то і тады не сказаў бы. Дадзена мне зразумець, што падпісаў сабе смяротны прысуд. Калі трэба памерці — памру чыстым і незаплямленым. Скажы ж мне ты, Анэлі, няўжо я мог адказаць інакш? Я цябе кахаць буду, буду лунаць над табой і нашым немаўлём, а потым зноў сустрэнуся з табой на тым, іншым, свеце. Лічы, што ў панядзелак я буду мёртвы».

### Экзекуцыя

Аднак ні дажыць да панядзелка, ні зноў пабачыць жонку Серакоўскаму не давялося.

15 (27) чэрвеня з самай раніцы ў Вільні быў рух. На Лукішскай плошчы ставілі шыбеніцу, па горадзе разляталася вайсковая музыка з пішчалкамі, якая сведчыла пра будучую экзекуцыю. На відовішча цягнуўся натоўп.

Ішла дзясятая гадзіна. Узброеныя салдаты абступілі пляц. Пачуліся галасы: «Едзе! Едзе!». Ад Пагулянкі дарогай, якая вяла са шпіталя, везлі Серакоўскага на адкрытым рысорным экіпажы. Зыгмунт стаяў, абапіраючыся на плечы ксяндза і шпітальнага служкі. Барабанны бой, які сустрэў яго на Лукішках, сціх, і ўся агромністая плошча запоўнілася мёртвай цішынёй.

Жоўты, хваравіты твар, валасы ў беспарадку і ясны позірк блакітных вачэй, які вышукваў у натоўпе знаёмых. Адным з іх аказаўся Якуб Гейштар, якому Зыгмунт даслаў знак хусткай, прабачаючы таварыша за падман.

Прысуд Серакоўскі слухаў моўчкі. Але калі пачуў, што расстрэл яму заменены на ганебнае павешанне, прамовіў: «Пратэстую перад Расіяй і Еўропай супраць гэтага прысуду!» Гукі барабанаў заглушылі яго словы. Гэта быў звычайны маскоўскі метад, якім пазбаўлялі апошняга слова многіх паўстанцаў.

Да Зыгмунта наблізіўся кат са смяротнаю кашуляю ў руках і, несціярожна адзяваючы яе на пакаранага, дакрануўся да незагойнай раны. Серакоўскі ўзрушана крыкнуў: «Как смеешь ты мяне дакранацца, дурань!» — і адпіхнуў яго. Пасля секунднай разгубленасці кат кінуўся на Серакоўскага. Той крычаў і намагаўся адбіцца. Жаўнеры прыйшлі на дапамогу кату. Серакоўскага звязалі і пацягнулі пад шыбеніцу. Цяжкапаранены, Зыгмунт нават не здолеў самастойна стаць на крэсла. Апошнімі словамі з яго вуснаў натоўп пачуў: «Будзе воля Твая!»

### «Ласка» Мураўёва

У той жа дзень да Апалоніі завітаў дасланы Мураўёвымураднік. Ад імя губернатара ён прапанаваў удаве знайсці новага мужа і дапамогу, каб выгадаваць будучае дзіця: «Оно должно быть лучшим подданным, чем его отец». Але Апалонія адмовілася. Тады Мураўёў асабіста загадаў выслаць яе ў Белазерск на поўначы Расіі. На заўвагу доктара, што тамтэйшыя ўмовы жыцця цяжарная жанчына проста не перанясе, генерал-губернатар заўважыў: «Тем лучше».

Апалонія даехала толькі да Ноўгарада, дзе мясцовыя ўлады дазволілі ёй спыніцца. Тут у кастрычніку 1863 нарадзілася яе дачка, названая ў гонар бацькі — Зыгмунта. Малая пражыла ўсяго год. Апалоніі ж было наканавана доўгае, поўнае выпрабаванняў і страт жыццё. Яе не стала 2 студзеня 1919 года. Да канца жыцця Апалонія Далеўская заставалася вернай свайму мужу — Зыгмунту Серакоўскаму.

# Віктар Марціновіч: **Пад шэрымі нябёсамі Мінска я нікому не патрэбны**

Віктара Марціновіча называюць адным з самых паспяховых беларускіх творцаў. Яму 38, і ён дамогся поспеху ў шмат якіх сферах, зрабіўшы кар'еру ў журналістыцы, навуцы, пісьменніцкай справе.

За апошнія чатыры гады ён выдаў чатыры кнігі і пабачыў пераклады некаторых з іх на англійскую, нямецкую і іншыя мовы. А нядаўна Віктар дадаў да свайго рэзюме яшчэ адзін радок: драматург. Ягоная п'еса «Найлепшае месца на свеце» была пастаўленая ў Вене.



Віктар Марціновіч — аўтар заўважных раманаў «Параноя», «Сфагнум» і «Мова».

Доктар філасофіі Віктар Марціновіч атрымаў акадэмічную ступень у Літве за сваё даследаванне віцебскага мастацкага жыцця пачатку XX стагоддзя, у якім працаваў у тым ліку славуты Марк Шагал. У цэнтры венскага спектакля Марціновіча — таксама твор мастацтва («Стары ў акне» — *Alter Mann im Fenster*), толькі ейны аўтар Самуэл ван Хогстратэн (*Samuel van Hoogstraaten*) нашмат менш вядомы за Шагала. Але гэта не нагода хаваць радасць ад таго, як спектакль сустрэла венская публіка: «Калі я пабачыў, што тысячы ідуць адзін за адным у маю залу [дзе адбывалася пастаноўка — аўт.], — гэта было вельмі моцна», — кажа доктар Марціновіч. Спектакль «Найлепшае месца на свеце» паводле беларускага аўтара ў венскім музеі адбываецца адначасова з дванаццаццю іншымі невялікімі перформансамі. Усе яны натхнёныя карцінамі, на фоне якіх і праходзяць спектаклі.

«Гэта нешта кшталту начы музеяў», — тлумачыць Марціновіч. Гледачы цягам некалькіх гадзінаў пераходзяць з залы ў залу, спыняючыся і слухаючы найбольш цікавыя ім творы, якія прадстаўленыя ў самых розных формах — ад оперы да імправізацый на піяніна. Вялікая канкурэнцыя, а таксама не вельмі спрыяльнае размяшчэнне «карціны Марціновіча» — яна завалялася недзе ў куце музея — адбіліся на ўзроўні пачатковай цікаўнасці да спектакля беларуса.



**У цэнтры венскага спектакля Марціновіча — карціна Самуэла ван Хогстратэна «Стары ў акне».**

«Гэта нешта кшталту начы музеяў», — тлумачыць Марціновіч. Гледачы цягам некалькіх гадзінаў пераходзяць з залы ў залу, спыняючыся і слухаючы найбольш цікавыя ім творы, якія прадстаўленыя ў самых розных формах — ад оперы да імправізацый на піяніна.

У пачатку восені 2015 г., калі пастаноўку паказалі ў Вене ўпершыню, не так шмат наведвальнікаў зацікавіліся тым, дзе ж хаваецца найлепшае месца на свеце. Але з часам пра твор пачалі пісаць і ўзгадваць у Аўстрыі. «Здарылася нешта нечаканае: людзі пачалі прыходзіць [на спектакль]», — кажа Марціновіч. У выніку, па падліках аўтара, п'есу толькі за адзін вечар 16 снежня 2015 года пабачыла болей за тысячу гледачоў.

### Венскі прарыў

Віктар Марціновіч — адзін з самых вядомых у Аўстрыі сучасных беларускіх творцаў. На нямецкую перакладзены першы раман аўтара «Параноя». Пакуль што апошні раман «Мова» таксама рыхтуецца да перакладу. Пісьменніцкая рэзідэнцыя Марціновіча ў Вене, якая дазволіла яму скончыць яшчэ адзін твор — пра Марка Шагала, лекцыі пра ўсё таго ж Марка — усё гэта дадае цікаўнасці да пісьменніка і мастацтвазнаўцы з Беларусі. Тым больш прасунутыя аўстрыйцы ведаюць: у Беларусі могуць здарацца рэчы, якія ў іншых краінах Еўропы ўявіць вельмі цяжка. Напрыклад, забарона на выхад кнігі.

Вось і кіраўнік тэатральнай трупы і выканаўца галоўнай і адзінай ролі ў «Найлепшым месцы на свеце» Пітэр Вольф называе Марціновіча «вялікім талентам еўрапейскай літаратуры», а таксама тлумачыць для нямецкамоўных чытачоў, што сітуацыя ў Беларусі складаная, друкавацца там забаронена.

Таму, выглядае, беларуская публіка не хутка дазнаецца, дзе знаходзіцца найлепшае месца ў свеце (дарэчы, яно сапраўды існуе — кажа аўтар!). Творы Марціновіча беларускія тэатры ставіць не спяшаюцца.

«У мяне вельмі мала поспехаў у гэтай галіне. Я быў небаракам і лузерам, — сцвярджае Марціновіч. — Літаральна некалькі тыдняў таму правалiлiся шматабяцальныя перамовы па пастаноўцы рамана «Мова» на сцэне беларускага тэатра. Мы ўзгаднілі ўсё, дамовіліся наконт цэн, і раптам — адмова. Я не ведаю, што там адбылося. Але я быў вельмі расстроены з-за гэтага, быў у пэўнай дэпрэсіі».

### У Мінску я нікому не патрэбны

Віктар адмаўляецца назваць установу, што нечакана адмовілася ад яго твора, але кажа, што гэта быў яго любімы тэатр. Але няма ліха без дабра. Новых тэатральных сяброў Марціновіча з Вены вельмі зацікавіла іншая п'еса, якая была напісаная ім для мінскага Купалаўскага тэатра, але так у Купалаўскі і не трапіла. Цяпер яе перакладаюць на нямецкую мову, каб вызначыць ейны далейшы лёс.

«Я заўважаю, што ёсць месцы, у якіх табе ўсё ўдаецца, а ёсць тыя — дзе табе нічога не ўдаецца. З Венай у мяне нейкае магічнае зялёнае святло гарыць», — кажа Марціновіч.

А вось з мінскай тэатральнай сцэнай у Марціновіча пакуль не клеіцца. З чым аўтар адначасова мірыцца і праз што троху дэпрэсуе, углядаючыся ў шэрае зімовае неба: «Я вельмі спадзяюся, што калі-небудзь я буду пастаўлены на беларускай сцэне. Бо поспехі за мяжой — гэта як сон, які ніяк не ўплывае на будні. Вось я там пабываў, а цяпер я ў шэрым Менску, дзе я нікому не патрэбны. Дзе мяне ніхто не ведае. Для пэўнага тыпу творцаў гэта добра — быць незапатрабаваным. І я нават навучыўся не здзіўляцца гэтаму і не дэпрэсаваць».

«Але для таго, каб сапраўды адчуць прысмак перамогі, трэба, каб гэтая перамога адбылася на тваёй зямлі. Каб я, як Марк Шагал, з'ехаў з Беларусі і жыў там у Вене, ці ў Парыжы, ці ў ЗША, я б, мабыць, радаваўся гэтым кропкавым поспехам больш шчыра. Але я жыву тут, пад гэтымі шэрымі нябёсамі. І пад гэтымі шэрымі нябёсамі я нікому не патрэбны. І я ад гэтага адчування крыху ўжо стаміўся».

Паводле сайта Музея гісторыі мастацтваў у Вене, болей паказаў спектакля «Найлепшае месца на свеце» пакуль не чакаецца.

**Алесь Герасіменка**

# Чатыры эпізоды гэтага Новага года, якія разарвалі мае шаблоны пра Беларусь

Піша **Стась Карпаў**.



Новы год мне асабліва дарагі хаця б тым, што з высокай імавернасцю выйграеш білецік на пазнавальнае бухалава з прадстаўнікамі «не свайго фэйсбука», бо калі цябе запрашаюць у госці на Новы год, то па прыходзе высвятляецца, што не толькі цябе. І там, куды ты трапіў, ужо ўсё ўтрамбавана ўзбуджанымі і не вельмі цвярозымі людзьмі, якія гатовыя выказвацца на любыя тэмы. У маім выпадку я магу апісаць тры эпізоды спаткання.

Першы эпізод я назаву так:

### «Нефіласофскі параход, ці Унутраная эміграцыя пацанчыкаў»

Не магу сказаць, што праз сваю пераважную беларускамоўнасць я страшна нацярпеўся цягам сваіх 32-х, але раней, дапусцім, у любой кампаніі мяне як мінімум пыталі, а чагойта я «размаўляю». А аднойчы прыяцелі прывялі да нас у госці адну дзевачку, дзіцячага псіхолага, якая маўчала-маўчала, а пасля пачала расказваць, як адзін беларускі мастак у грубай форме запатрабаваў, каб яна працавала з ягоным дзіцем па-беларуску. І як гэта подла з яго боку. А я спытаў, ці ўпэўнена яна, што, прыйшоўшы у мой дом, першае, што варта рабіць — гэта расказваць, як яе пакрыўдзілі беларускамоўныя.

А яшчэ быў адзін таксіст, які прыблізна кіламетр язды ёрзаў унутры сваіх абтруханых трэнікаў, а пасля не вытрымаў і сказаў, што ён пачуў у маёй мове нейкую памылку і таму ён рэкамендуе мне наогул не гаварыць па-беларуску. А я тады ў яго запытаў, ці добра ён уседамляе сваю функцыю як таксіста. Ён тады здранцвеў унутры сваіх трэнікаў, але, нарэшце, заткнуўся.

Карацей, з паводніцкага пункту гледжання, я сабе добра ўяўляю, як людзі, якія не прызнаюць за мной права размаўляць па-беларуску, змагаюцца з нервовасцю, як яны ёй прайграюць, як яны не вытрымліваюць і як яны пачынаюць сваю прапаведзь. Ну, вось усё гэта вось гэта. Таму калі а другой ночы першага студзеня я трапіў у вялікую і шумную кампанію, то без цяжкасці заўважыў чалавека, які падчас майго тоста, як водзіцца, скамянеў, дэманструючы, як унутры яго запусціўся працэс, што праз некалькі хвілін мусіў быў вербалізавацца ў «а зачэм» і далей па тэксце.

Але «азачэм» так і не нарадзіўся. Не нарадзіўся і «яніпанімаю». Праўда, аднойчы, не без радасці, малады чалавек заявіў, што не разумее значэнне слова «цэгла», але на гэтым, у прынцыпе, ягоны бунт і завяршыўся. Чувак стойка трымаўся два дні сумеснага святкавання, нешта мармычучы сабе пад нос, імкнучыся са мной не перасякацца і не размаўляць, але ён перамог і даў рады «азачэму». Яму і пяю я песню.

Так. Ён не вельмі хацеў нас з жонкай праводзіць, калі мы з'язджалі. Але ўсе пайшлі, і ён пайшоў. Так. Ён не хацеў працягваць мне руку, але ўсе абдымаліся, развітваючыся, і ён быў вымушаны праявіць ветлівасць. Гэты хлопец — чалавек новай фармацыі. Ён здолеў заткнуцца, а гэта адно (я па сабе ведаю) з самых карысных уменняў на зямлі. Таму ягоныя дзеці, магчыма, будуць таемна ад таткі слухаць «НРМ» і цягацца за вечна-зялёным Паўлам Севярынцам.

Другі эпізод будзе называцца

### «Трэба дома бываць»

Калі вярнуўся з першых гасцей, самым вялікім жаданнем, якое я мог намацаць унутры сябе, — набраць вермуту, напампаваць фільмаў, залегчы пад коўдрай перад тэлекам і суткі ляжаць, вохаць, крактаць і адагравацца, назіраючы краем вока елачку і гірляндачкі. Але з маімі планамі ў 2016 годзе ўсё здарылася так, як і ў годзе мінулым.

Жонцы патэлефанавала суседка. Спачатку на мабільны. Пасля на хатні. Пасля ў вайбер. А пасля прыйшла. Прыйшла і сказала, што мы павінны перамясціцца да іх у госці, інакш вайна. Я паспрабаваў прадэманстраваць, як падкошваюцца мае ногі і як не факусуюцца зрэнкі. Я сказаў, што мая тэмпература цела ніжэйшая за ніжнюю адзнаку на градусніку, і што я стаміўся, і што я хачу спаць. Пасля я сказаў, што мы адзначаем новы год ужо чацверты дзень. І гэты мой пераможны аргумент, як высветлілася, разбурыў усе папярэднія. Суседка надзьмулася і сказала, што раз з усімі астатнімі мы можам адзначаць, то яна нічым не горшая.

Карацей, пацягнуліся мы ў госці ізноў.

Суседзі ў нас душэўныя. Ён электрык, яна сядзіць з найміленшымі дзецьмі. Яна кажа, што карэнная мінчучка (хаця яе бацькі, наколькі я зразумеў, з Гомеля). Ён — з вёскі і заўважна ганарыцца тым, што заваяваў сэрца сталічнай дзеўкі, а яна гэтаму паблажліва спрыяе. Абое простыя, жывыя людзі. Вельмі прыязныя і зычлівыя. Як водзіцца, аматары застолляў і гучнага крычання пад гітару пачварных дзембельскіх песень.

За сталом, акрамя гаспадароў, суседскія кум з кумой. Ён чарнявы мужык гадоў сарака. Яна жанчына таго ж узросту з лёгкай каўказскай ноткай. Выпілі. Пагаварылі пра палітыку. Высветлілася:

— без Расіі мы ніхто.

— За Лукашэнку ніхто не галасуе. І наогул ён [...].

— Лепшага за Лукашэнку ўсё адно няма.

— Лукашэнка не дае людзям зарабляць.

— Кума галасавала за Лукашэнку.

— Маленькая Беларусь сама не пракорміцца.

— Усім страшна шкада, што яны не гавораць па-беларуску.

Пакуль я спрабаваў зразумець, як гэтыя тэзісы могуць аднachасова суіснаваць у рамках кожнага з маіх новых знаёмых, кум узяў у рукі гітару і спеў «Отчего так в России березы шумят». Спытаў, ці не занадта гучна ён пяе.

Я адказаў, што па мне дык нармальна таму, што я ўсё адно нічога не чую, бо ад гэтай песні мае вушы забіваюцца крывавымі коркамі.

— Ты што, не любіш Расію? — спытаў кум.

— Не люблю.

— Ну ты ж не нацыяналіст?

— Чаму. Нацыяналіст. Самы сапраўдны.

— Ну, гэта ж не вельмі добра? — няўпэўнена спытаў кум.

Наступныя некалькі хвілін я расказваў, чаму нацыяналізм — вельмі добра.

Першай не вытрымала суседка.

— Калі б мой бацька чуў, што ты кажаш, ён бы...

Я склаў рукі на грудзях і сціснуў зубы, прыблізна ўяўляючы, што б сказаў «бацька з Гомеля».

— ...Ён бы табе руку паціснуў. Бацька ўвесь час так кажа. Што мы, беларусы... што ў нас усё скралі.

— Ну так, — няўпэўнена пагадзіліся кум і кума.

Тады я натхніўся і пачаў расказваць пра тое, што Менск — адзін з найбуйнейшых гарадоў Еўропы. Пра тое, што ўнутры Беларусі памясцілася б сем Бельгій. І што каму выгадна, каб мы лічылі сябе нейкім чмошным недарускім народам на «клачку зямлі», чыя мяжа мараў — памерці на шляху натаўскіх танкаў з «кавалачкам мяска і тваражком» у зубах.

Карацей, я вельмі люблю глядзець фільмы разам з жонкай хаця б таму, што яна чамусьці нічога не бачыла. І я гатовы ў соты раз пераглядзець якія-небудзь «Уцёкі з Шаўшэнка», хоць і ведаю яго на памяць, каб паназіраць за яе рэакцыяй.

Той жа кайф — глядзець, з якой радасцю і цікавасцю людзі, якія штодзённа пламбаваліся нашай ідэалагічнай сеялкай, прымаюць сваю гісторыю да з'яўлення першага партызана. Наколькі яны гатовыя весці свой радавод не ад бульбянога поля.

Шмат да якіх слушных высноваў яны даходзяць самі, навобмацак. Але ва ўсім сумняюцца, сароме юцца нешта сцвярджаць з пэўнасцю, бо баяцца выглядаць смешна, баяцца памыліцца. Таму ўнутры іх карціна краіны, у якой яны жывуць, выглядае не менш мазаічна, чым самі ведаеце хто. Гэта такі дзіўны мікс сэнсавых клішэ родам з Першага нацыянальнага, страшылак родам з Першага расійскага і іх уласных мараў і чаканняў ад сваёй краіны.

— У нас жа дзеці. Работа. Нам няма калі ўсё гэта чытаць. І адкуль даведацца, дзе праўду кажуць, а дзе хлусяць?

Пры канцы я пачуў, што тыя, хто хадзіў на Плошчу, — героі, але самі яны не пойдуць, бо ім страшна і таму, што выходзіць замала людзей, а трэба, каб усе. І інакш — ніяк. На гэтай супярэчлівай пазіцыі мае новыя знаёмыя стаялі надзвычай цвёрда.

Тады я сказаў ім, што ніхто і не патрабуе, каб яны некуды выходзілі. Але калі вы не выходзіце, то вы хаця б праявіце салідарнасць. Падзякуйце таму, хто хадзіў. Не адгаворвайце таго, хто хоча пайсці. Не застрашайце тых, хто вагаецца. Не будзьце абыякавымі.

Гэтая прапанова яўна ім вельмі спадабалася. Выходзіць не выходзячы і змагацца не змагаючыся. Круць.

Пасля кум пацiснуў мне руку за маю беларускую мову, схапіў гітару і зацягнуў «Что такое осень».

### Борис Буткеев, Краснодар, проводит аперкот

На наступны дзень у Менск прыехала мая сяброўка, якая некалькі гадоў таму з'ехала ў Маскву і пусціла там вяршкі з карашкамі. З гэтай нагоды «рабяты з нашага двара» вырашылі сустрэцца старым складам. Прапусціць сустрэчу нельга было ніяк, хаця «сілы на ісходзе і кгаватачат ганы».

З сабой сяброўка прывезла дзяўчатак са сваёй працы. Двух чыстакроўных масквічак, калі не памыляюся, з-пад Разані.

Еду я, значыць, на спатканне і думаю, наколькі хутка мы пяройдзем да тэмы Крыма і пачнём кідацца чыпсамі і абліваццa півам? Тым болей, думаў я, што ў гэтай кампаніі ж усе, акрамя нас з жонкай, — ціхія ватнічкі. І вось яшчэ два рафінады «адтуль» прыбылі.

Першы ўдар я атрымаў, калі адна наша мясцовая дзевачка, якая ў мінулы раз мне нешта мармытала пра свае надзеі на рускія танкі, заявіла, што ейны брат зрабіў татуху на назе. З «Пагоняй». Я ржаў так гучна, што мне пазайздросціў бы кум з «бярозкамі». Гучна і дэманічна.

Пасля з «аглядной экскурсіі» вярнуліся і дзве масквічкі. І гэта быў другі ўдар. Яны папрасілі мяне не пераходзіць адмысслова для іх на рускую мову, размаўляць па-беларуску, «а яны будуць старацца ўсё зразумець». Яны казалі, што Менск цудоўны. І што «ў вас, напэўна, неймаверна прыгожа вясной і летам. Усё такое зялёнае». Захапляліся нашай старынной і прыродай. Састрацілiся адзін раз, калі сказалі пра супольныя карані, але да крыўднага пакорліва прынялі той факт, што ўсе мы больш-менш ад адной чорнай афрыканскай жанчыны, што ні аб чым не кажа.

### «Я не самотны»

І канчаткова пераламіў мой свет аб каленку таксіст. Мужык гадоў пяцідзесяці. Ехалі, ехалі. На вуліцы халодна, а ўнутры машыны цёпленька.

Слова за слова: жыццё ідзе, Мінск расце, а ў які бок расці? У бок Вільні. А Вільню аддалі. А камуністы. А расстрэлы. А зноў Вільня. А «Наша Ніва». А Сяргей Палуян. А «Вянок» Багдановіча...

Таксіст: Святкавалі ж толькі дзень нараджэння. Хутка будзе круглая дата са дня смерці.

Я (страчваючы прытомнасць): Так. Чорт. У якім жа годзе ён памёр? Не магу ўзгадаць.

— Ну ў 1917-м, нібыта! Сто год хутка.

Я: Зусім забыў. Ганьба, канечне. Памятаю, што ў Крыме. «У краіне светлай, дзе я ўміраю. У белым доме ля сіняй бухты...»

Таксіст: «Я не самотны, я кнігу маю з друкарні пана Марціна Кухты».

Вось так...

«І з тых часоў я не прыходзіў у прытомнасць і ніколі не прыйду».

---

## Каб людзям зямлі...

Піша **Кастусь Шыталь**.



Беларусы працавітыя. Гэта не мантра з тэлевізара або раёнкі.

Бацька мой бядуе, што пенсійны ўзрост могуць падвысіць.

— І што ты будзеш рабіць, як на пенсію пойдзеш? — пытаюся.

— Гарод буду глядзець. У вёсцы бульбу пасаджу. У лес едзіць будзем, які грыб сарваць, журавіны збіраць.

— Дык таксама працаваць будзеш?

— Так. Але ж гэта для сябе, на сваім.

Беларусы не ўяўляюць жыццё без працы. У Параф'янаве, дзе тысяча чалавек жыве, — два вялікія статкі кароў. Многія гаспадары трымаюць коней, некаторыя аруць самаробнымі ці старымі, спісанымі з арганізацый, трактарамі. У вольны ад асноўнай працы час людзі не адпачываюць — робяць на гародах, на сотках.

Мой дзед пайшоў на пенсію ў 1987-м. Рабіў заўхозам у Крулеўшчынскай школе. І заняўся сямейнай гаспадаркай. Дзве каровы, свінні, пчолы, 80 сотакворнай зямлі і паўтара гектара сенакосу. Яшчэ памятаю, як ён касой усё касіў, гэта пасней сталі наймаць касілкай. А ў 86 год яшчэ сам араў гарод мотаблокам.

Я памятаю, як у Крулеўшчыне на мяжы 90-х і нулявых гаспадыні яшчэ рабілі тварог, сыр — і вазілі прадаваць на рынак у Полацк. Ранішнім дызелем у 4:53 выязджалі, хуценька прадавалі і на 8:48 вярталіся. Рана ўставаць, далёка ехаць — але можна было зарабіць болей, чым калі здаваць малако дзяржаве.

Столькі людзей з залатымі рукамі, здольных сваімі рукамі і трактар сабраць (колькі самаробных трактароў у вёсках!), і жорны з каменя вычасаць (адзін мой сваяк, быўшы падлеткам, пасля вайны зарабляў гэтай працай на пражыццё), і хоць якую тэхніку адрамантаваць.

Столькі працавітых людзей цэлымі днямі збіраюць у лесе лісічкі, баравікі, чарніцы, цягаюць з балот мяхі журавінаў. Ці можна сцвярджаць, што гэта беднасць людзей у лес гоніць? Некаторых — так. Ды ўсё ж падаецца, што ёсць у людзей нейкая ўнутраная патрэба — працаваць.

Іншая рэч — што беларусы хочуць працаваць на сваім, для сябе. Як іх дзяды свае пяць ці дзесяць гектараў аралі. Нічога, што жылі бедна, затое самі былі гаспадарамі. Самі распараджаліся і працай, і прыбыткам з працы. І гэтая прага працаваць — не восем гадзін, а ад цямна да цямна — захавалася ў народзе.

А на дзяржаву тыя сыны і ўнукі сялянаў глядзяць воўкам. Саветы не здолелі зрабіць іх «чырвонымі людзьмі». Яны настолькі прывыклі не верыць дзяржаве, што не вераць, нават калі чыноўнікі кажуць праўду. Яны не стараюцца на дзяржаўнай рабоце, бо ведаюць, што за старанне ім не аддзячаць. Яны зліваюць салярку з трактароў і выносяць жыта з калгасных свірнаў, бо перакананыя, што дзяржава недаплачвае ім за цяжкую працу.

І працуюць, паліваюць потам гароды і соткі, балоты з журавінамі, лясы з чарніцамі. Едуць на заробкі ў Расею, дзе за добрую работу можна атрымаць добрыя грошы. Такія маглі б стаць паспяховымі фермерамі, прадпрымальнікамі, будаўнікамі. У савецкую і постсавецкую сістэму вытворчасці нашчадкі беларускіх сялянаў не ўпісаліся. Але той, хто зробіць сістэму «пад гаспадароў», азалоціць Беларусь.

Піша **Ангела Эспіноса Руіс**.

# Цар Пір

Дарагі чытач, дазваляеце, каб мы перайшлі з Вамі на ты? Так? Дзякуй. Калі не, я не ёсць жывою аўтаркаю, а толькі мёртвымі, выдрукаванымі ўжо словамі (калі знайшліся матэрыяльныя сродкі да публікацыі, вядома). Я ўжо перайшла з табою на ты. Прабач, калі гэта цябе ў нечым абражае.

Уяві, калі ласка, што ты маладая жанчына ў антычнай Грэцыі. Так, я разумею, што было б нашмат лягчэй папрасіць цябе, чытача, уявіць сябе мужчынам; чытачы-мужчыны ёсць мужчынамі, а чытачы-жанчыны, як мне здаецца, больш прывыклі да такой ментальнай гімнастыкі. Справа ў тым, дарагая, — я ўжо перайшла ў жаночы род, не звяртай увагі, — што нарацыя развіваецца ў кантэксце, у якім мужчын, на вялікі жаль, амаль не засталося, і таму лагічна мець гераіню, а не героя (якое трапнае слова!). Зараз будзе ўсё зразумела.

Вясна. Вайна супраць Рыма скончылася. Цар Пір вяртаўся ноччу ў горад. Твой муж не вярнуўся з бою, але назвалі яго героем, таму ты павінна апрануць найпрыгажэйшую тваю тогу (з таго, што ўдалося выратаваць) і зрабіць фантастычны макіяж; будзеш сядзець побач з каралём. Твой старэйшы брат, у сваю чаргу, ужо некалькі дзён у горадзе, але згубіў правую руку, левае вока і — гэта найважнейшае — страціў розум. Гэта ўжо не той чалавек, які абараняў цябе ад усялякай крыўды ў дзяцінстве. Не той, хто пайшоў працаваць, калі твой бацька памёр, яшчэ да вайны. Твой брат не гаворыць, не глядзіць у вочы, не пазнае цябе, нікога іншага. Не ў змозе апранацца, есці, мыцца сам. Гэтым займаешся ты — табе прыныпова. Яшчэ ты была цяжарная, але згубіла дзіця падчас вайны. Стрэс і недаяданне прывялі цябе да выкідку ў чатыры месяцы цяжарнасці, пра што ведае толькі твая маці. Ты згубіла першае сваё дзіця з мужам-героем, якога ўжо няма. Ты сабе гэтага не даравала.

Чытач, мы з табой ведаем, што гістарычны грэцкі цар Пір лічыў гэтую сваю перамогу роўнай паразе. Плутарх жа запісаў яговыя словы: *«Яшчэ адна такая перамога — і я застануся без войска»*. Я ведаю, што ты чалавек адукаваны і разумны, у змозе, пэўна, працытаваць Піра і пастарагрэчаску; не рабі гэтага, гэта гучыць занадта прэтэнцыёзна. Але давай уявім іншую версію той гістарычнай падзеі. Пір, мякка кажучы, адурэў. Ён эйфарычна задаволены вынікам вайны, загадаў прыгатаваць вялікі банкет, і каб ты, Ірэне (як ведаеш, тваё імя значыць «мір» па-грэцку якраз), удава героя, сядзела побач з ім і піла з ім. Горад знішчаны, ежы ўжо няма. Паловы насельніцтва не стала. Але людзі чамусьці накрываюць банкетны стол з энтузіязмам. Пытаешся — адказ адзін: «Галоўнае, вайны ўжо няма. І наш цар Пір — выдатны генерал, пераможца».

Ясі, як можаш. Пакорліва слухаеш недарэчныя жарты п'янага цара. Адчуваеш, як праклятая перамога расце ў роце. Раптам твой брат кідае кавалачак сухаватага хлеба ў вялікага генерала. У іншай сітуацыі табе было б нават пацешна, але ты, зразумела, без настрою. І, калі шчыра, баішся таго вар'ята, якога называюць каралём. Здзіўляешся, калі Пір ласкава просіць пару рабыняў, каб займаліся тваім братам. Табе непрыемна. Не хочаш, каб брат сядзеў занадта далёка ад цябе, ён бы цябе не кінуў. Яшчэ больш непрыемна робіцца, калі цар кладзе далонь на тваю нагу і кажа: «Без інваліда цяпер ты ўся мая, даражэнькая. Трэба святкаць перамогу як след!»

Не ведаеш, што з табой. Не кантралюеш ужо сваё цела. Устаеш і прамаўляеш наступныя словы:

*«Вялікі генерал гаворыць пра перамогу. Але я хачу вас, народ, спытаць: якая ж перамога? Вы яе бачыце? Мы ямо сухі хлеб пры святочным стале на дварэ. Горад абсалютна знішчаны. І сам стол напалову пусты. Дзе мой муж? Слова «герой» не мае для мяне значэння! Лухта на ветры! Ніхто не верне мне дзіцяці, адзінага ад мужа, якое згубілася назаўжды падчас той вашай «перамогі»! Глядзіце на майго брата! Ён вярнуўся, так, але ў якім стане? Без рукі, без вока... Мяне не памятае. Мой родны брат-пераможца мяне не памятае! Перамога, перамога. Якой цаной перамаглі? У нас нічога не засталося! Ні каханых намі мужчын, ні братоў, ні сыноў, ні горада, ні ежы... Нават вайны ў нас не засталося, каб адцягваць нас ад непапраўных стратаў, ад болю, ад жалобы! Калі гэта перамога, дык лепш бы...!»*

Натоўп раз'юшаны, патрабуе, каб цябе затрымалі. Цар апантана і злосна дае загад. Ахоўнікі не даюць табе прамовіць апошні сказ. Удар, чарната. Далёка-далёка чуеш рэха голасу цара: «...вар'ятка. Людзям цяпер патрэбны спакой. Галоўнае — мы перамаглі. Вайны няма і не будзе».

**Кароль кладзе далонь на тваю нагу і кажа: «Цяпер ты ўся мая»**

**Ангела Эспіноса Руіс**



Нар. 1993 у Іспаніі (Малага). Студэнтка. Вывучыла за два гады беларускую мову па падручніках з інтэрнэту — і настолькі добра, што піша на нашай мове вершы, у якіх адчуваюцца ўплывы вобразаў, уласцівых іспанскай паэзіі. Арганізавала моўныя курсы для трох іспанскіх студэнтак ва ўніверсітэце Гранады. Выдала кнігу беларускіх вершаў «Раяль ля мора». Публікуем тут апошні яе верш.

**Санет**

Нябеснай калыханкай засынае
Павольна сонца між духмяных руж,
І зззяе зорка закаханых душ,
І ветрык летні ў садзе заціхае.
Стаіць у садзе старажытны дуб,
Паміж галінаў клетка залатая,
А ў клетцы плача птушачка начная,
Як згублены ў сумневах самагуб.
І гэта толькі ты, мая турма,
Бо жарсць твая ўзяла мяне ў палон.
Як птушка на самоце сэрца б'е.
Ты кветка дня, ты рэха салаўя,
Мая няволя —
цуд мой, ды праклён,
Гучыць мой сумны голас для цябе.

In memoriam

# Айцец Сасна, «людскі бацюшка»

Выбітны праваслаўны святар, тэолаг і беларусазнаўца з Падляшша (Польшча) памёр 6 студзеня ў беластоцкім шпіталі. Яму было 76 гадоў.

Вёска Рыбалы ляжыць між Заблудавам і Бельскам. Асфальт, акуратныя хаты, ахайная царква-«мураўёўка». Побач — паціметровы драўляны крыж, які дзіцячая рука размалявала выявамі анёлаў і святых. Такую акцыю — каб дзеці ўпрыгожвалі крыжы пры цэрквах — прыдумаў славуты мастак з Беласточчыны Лёнік Тарасевіч.

Такім я пабачыў парафію айца Сосны ў 2005-м, калі пісаў рэпартаж пра жыццё праваслаўных на Беласточчыне.

«У нас людскі бацюшка. Ён любога прыме», — адразу ж характарызавала святара спатканая ля студні цётка, ведучы мяне да абсаджанай туямі хаты з высокім ганкам. На званок выйшаў сам айцец Сасна. Высокі, асаністы, без барады і з белай калараткай на чорнай кашулі. Ён больш нагадваў пратэстанцкіх пастараў Паўночнай Еўропы XIX ст., чым праваслаўнага бацюшку ў стэрэатыпным пра тых бацюшкаў уяўленні. У айца Сасны былі госці: прыехаў вучань, які працуе на захадзе Польшчы, прыехалі дачка і сын з сем'ямі. Дзіцячыя галасы, на падлозе раскіданыя цацкі, вялікі стол. Госці, спажываючы гарачыя флякі, гаманілі міжсобку «папростаму».




Кабінет айца Рыгора абстаўлены кніжнымі паліцамі. Камп'ютар з невялікім маніторам, на іншым стале — ноўтбук. Разам з матушкай Антанінай айцец пісаў артыкулы і кнігі. За чатыры дзясяткі гадоў іх назбіралася тры сотні. Якім коштам выдаваў свае кніжкі? «Тое, што не прап'ю, не пракуру — укладу ў макулатуру», — смяяўся айцец Рыгор.

Прыход у Рыбалах пенсійны, як і большасць вясковых прыходаў у Беларусі. «За год хрысціў дваіх, а пахаваў дваццаць пяць», — скрушна казаў айцец Рыгор. Маладыя выязджаюць у гарады, шукаючы працы.

«Нас тут засталася жменька — на перапісе запісалася нас 50 тысяч беларусаў, тысяча ўкраінцаў на Беласточчыне. На такую вялікую Польшчу. Можна сказаць, маленькая скварачка ў вялікай кашы. Але стараемся: і цэрквы будуем, і кніжкі друкуем...» — казаў айцец Сасна. І прыпамінаў, што за сацыялістычнымі часамі ўсё ж было цяжэй: «Калі штосьь будуваты, трэба было прашэнне пісаць. Але давалі рады... Калі я хадзіў з калядой, заходзіў да першага сакратара партыі, дык той стаяў за дзвярыма, а жонка прымала. А потым мы разам чай пілі. У нас не было такога, як у вас. Было крыху, дзеля страху юдэйскага. А, напрыклад, калі я бараніў царкву ў Цеханоўцы, жонкі міліцыянераў былі маімі найлепшымі прыхаджанкамі. І яны ўтрымалі царкву. Яе хацелі ці католікі забраць, ці на музей. А я пастанавіў не аддаваць».

«Тут кажная вёска мае сваю гаворку, — казаў айцец Сасна. — Мая парафія знаходзіцца ў межах даўняга ваяводства Падляскага, а пяць кіламетраў за рэчкай, пад Заблудаў, было ваяводства Троцкае. Дык тут інная мова, а там інная. Напэўно, не такая, як у Мінску, але гэта мова, на якой пісаліся Статуты, на якой да 1607 года выдаваліся ўсе ўказы, фундацыі. Гэта мова Біблії Скарыны. Для мяне найцаннейшае, што мы нашчадкі той «рускай» мовы».

**Андрэй Скурко**

**Рыгор Сасна**

Нар. 1939 у Шэрнях каля Орлі. Святарскую службу пачаў у 1960 у Кальнікове. У той час ён зацікавіўся гісторыяй Праваслаўнай царквы. Сваё святарскае служэнне: у Кодні, Сямятычах і затым цягам апошніх 27 гадоў у парафіі ў Рыбалах — айцец Рыгор спалучаў з навуковай працай. Ён апублікаваў каля 30-ці кніжак, сотні артыкулаў, датычных гісторыі Праваслаўнай царквы на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, а таксама асобных парафій. Разам з матушкай Антанінай ён стварыў у Рыбалах этнаграфічны музей «Бацькаўшчына».



**Салдат унутраных войскаў цалуе крыж падчас праваслаўных Калядаў у вайсковай часці 3214.**



**«Старадаўняя беларуская традыцыя — на Каляды і Вялікдзень пакідаць каля храмаў аўтазакі. Яны адпужваюць нячыстую сілу», — іранізуе ў фэйсбуку мінчук Глеб Патапенка. У той дзень царкву наведваў Аляксандр Лукашэнка з сынам.**



**Гарысан Форд стаў самым касавым акцёрам у гісторыі кіно. Фільмы з яго ўдзелам на сённяшні дзень зарабілі 4,7 мільярда даляраў. На першае месца Форда вывеў працяг кінасагі «Зорныя войны» — «Абуджэнне сілы». Там Форд сыграў Хана Сола. Цікава, што ў Гарысана Форда беларускія карані. Ён сам распавёў пра гэта: «Мае бабуля і дзядуля былі з Мінска».**



**Беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка выйграла першы індывідуальны турнір за 2,5 года. Увесь гэты час яна пакутавала ад траўмаў. Ёй скарыўся турнір у аўстралійскім Брысбене, у фінале Азаранка была мацнейшай за немку Кербер. Перамога дазволіла беларусцы вярнуцца ў топ-20 найлепшых тэнісістак свету.**




**Такую «суперзніжку» прапануе адна барысаўская крама.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Кароткі вынік развіцця РБ за апошнія 20 гадоў:

1994—1995. Мы без Расіі не можам!

2015—2016. Мы і з Расіяй не можам!

* * *

— Дарагая, сёлета я выкінуўялінку, нават не чакаючы твайго ныцця. Што, нечакана, так?

— Дурань, мы ж штучную купілі!

* * *

Я ўвесь час нешта губляю: то ключы, то тэлефон, то навушнікі, то сяброў, то сэнс жыцця, то сваю самаацэнку, асабліва навушнікаў шкада...

* * *

Улады вырашылі кампенсаваць зніжэнне пенсій падвышэннем пенсійнага ўзросту.

* * *

Як кажа мая бабуля: «Калі нашкодзіў, а пачуцце віны так і не прыйшло — значыць, усё правільна зрабіў...»

* * *

Дзве жанчыны размаўляюць паміж сабой:

— Так, цяпер і шлюбы нетрывалыя. Столькі разводаў па статыстыцы! Ды і наогул, кажуць, што толькі кожны дзясяты шлюб шчаслівы, а вы як лічыце?

— Не ведаю, я пакуль толькі трэці раз замужам...

* * *

– Каханая, хочаш пойдзем у ювелірны, пашукаем для цябе залаты пярсцёнак з дыяментам?

– Не.

Вы праслухалі мініяцюру «Размова ідэальнага мужа з ідэальнай жонкай».

## «НН» сто гадоў з вамі

**Шылава. Аршанскі павет.** Тутэйшы свяшчэннік жыве зусім бедна. Гэтымі днямі, як толькі сцямнела, зайшлі да яго зладзеі з рэвальверамі ў руках. Пасадзілі яны папа з пападдзёй у кут і сталі шукаць грошы. Знайшлі ўсяго багацця толькі 6 рублёў у хаце. Разллаваўшыся, зладзеі хацелі абкрасці і царкву. А колькі там грошай, спыталіся яны. Дзесяць рублёў! Палаяўшы папа за беднасць і сказаўшы, каб ніхто не выходзіў з хаты дзве гадзіны, яны пайшлі.

**«НН». №2. 1911.**

**Адліты Звон Свабоды.** Аўтарамі праекта выступілі Алесь Марачкін і Алесь Шатэрнік, а шматлікія дабрадзеі ахвяравалі на яго сродкі. Звон вагою 110 кілаграмаў адліты з бронзы. Для паляпшэння гучання была прыменены спецыяльная тэхналогія ліцця: сплаў медзі і волава размешвалі бярозавым кіем — бярозавае вугалле абсарбуе непатрэбныя дамешкі.

**«НН». №2. 2006.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 12.01.2016.
Замова №13.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16002